Святлана Басуматкава

# ЗВАНЫ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ



*Вершы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84 Бел 7
Б 27

*Рэцэнзент*
*Артур Вольскі*

Светлана Басуматрова живет и работает в Бобруйске. Главное в творчестве поэтессы — верность высоким идеалам, любимому делу, любовь к родной земле, к искренним трудолюбивым людям.

«Колокола человечности» — это в первую очередь тема утверждения мира на земле, память о тех, кто отдал свою жизнь за Родину, протест против опасности, которая нависла над людьми.

Б $\frac{4702120200-054}{М 302(03)-88}$ 41—88

ISBN 5-340-00042-7

# *Мы — савецкія людзі*



Шукалі скрыты сэнс у кожным знаку
На зорнай карце зманлівых нябёс
Астролагі, па знаках задыяку
Яны чыталі чалавечы лёс.

Казалі, ён залежыць ад планеты,
Ад зорачкі, што свеціцца ўгары:
Пад гэтай нараджаюцца паэты,
Пад тою вунь — заўсёды змагары.

Але залежаць лёсы пакаленняў
Ад волі ўласнай, а не ад нябёс,
І на зары улады нашай Ленін
Прадбачыў наш усенародны лёс.

Агульныя святкуем імяніны
Кастрычніцкаю яснаю парой.
Мы — жыхары Савецкае краіны
Народжаны пад зоркаю адной —

Чырвонай, пяцікутнай, прамяністай,
Што асвятляе наш Дзяржаўны герб.
І беспартыйных нас, і камуністаў
З'ядналі молат, зорачка і серп.

Сумленне і надзея ўсёй планеты,
Адвеку ўсім прыгнечаным сябры.
Мы ўсе ў душы музыкі і паэты,
За шчасце, мір і праўду змагары.

# *Мая зямля*



Зямлю беларускую
Са сцежкаю вузкаю,
З чырвонай рабінаю
Заву я любімаю.
З матулінай ласкаю,
З бабульчынай казкаю
На свеце такая адна.

Зямля мая спеўная
Будзілася пеўнямі,
Звінела крыніцамі
Пад вербамі ніцымі.
І моваю матчынай,
Як шчодраю спадчынай,
З маленства сагрэла мой лёс.

Зямля мая мужная,
З адвагаю дружная,
Адолела ворага.
Заплочана дорага:
Ляжаць пад пагоркамі,
Пад вечнымі зоркамі
Героі свяшчэннай вайны.

Зямля мая родная
Сягоння свабодная,

На долю шчаслівая,
На жыта ўрадлівая.
Крылатымі птахамі,
Высотнымі гмахамі
Імкнецца ў прастору нябёс.

Зямля мая ветлая
Азёрамі светлая,
Барамі гасцінная,
У сэрцы адзіная.
Маторам і коласам,
Раллёю і космасам
Яна галасуе за мір!

# *Справе партыі верныя*



Марозам скаваны сівы Петраград,
І птушка замерзне ў палёце...
Лістоўку прынёс у казарму салдат,
Ён быў на партыйнай рабоце.
Такія збіралі на сходку сялян,
Рабочых — пад сцяг забастоўкі.
І звергнулі ўладу цара і дваран,
Прыладзіўшы штык да вінтоўкі.

Такія, на фрыцаў наводзячы жах,
І палітрукамі на фронце,
І ў мінскім падполлі,
І ў бранскіх лясах
Былі па партыйнай рабоце.
Такія ўзрывалі пад Оршай масты
І, перш чым пад сцягам агністым
Падняцца ў атаку, пісалі лісты:
«Я жыў і памру камуністам».

Нямала гадоў без вайны пражылі,
Яе нам ніколі не трэба.
Мы шчыра жадаем народам зямлі
І сонца, і міру, і хлеба.
...Сягоння краіна ў святле навіны:
На з'езд дзелавы і ўрачысты

Збіраюцца дочкі яе і сыны,
З рэспублік усіх камуністы.

Калонкі дакладаў і слушных прамоў
Імгненна размножаць газеты,
А нам — кіравацца праўдзівасцю слоў,
Ісці да прызначанай мэты.
Таварышы, працай адданай сваёй
На змене, у полі, ў палёце
Мы служым дзяржаве і справе адной,
Мы ўсе — на партыйнай рабоце.

* * *



З узрушаным сэрцам стаім мы
ля помніка славы рускай зброі,
ля магілы рускіх воінаў 1812 года...,
хто стварыў славу і прынёс прагрэс
Расіі XIX стагоддзя, якая нарадзіла
Расію сучасную — наш Савецкі Саюз.

Усевалад Вішнеўскі

Наўзбоч шашы
З Бабруйска ў Магілёў
Стаіць на ўзвышшы
Белая капліца,
На гонту
Асыпаецца ігліца
І вее
Вольным ветрыкам
З палёў.

Спынюся ля капліцы.
Зноў на ёй
Пабачу лічбу
«Восемсот дванаццаць».
Нібыта да гісторыі
Самой,
Мне да яе
Цікава дакранацца.

Грымелі барабаны:
«Тра-та-та!»,

Барвовы дым плыў ад гармат
З лагчыны.
І крыкнуў генерал:
«Дзеля айчыны,
Браткі,
Не пашкадуем жывата!»

Глынуў француз
Бярэзінскай вады.
Мундзірамі
Сінелі пералескі.
Ушчэнт
Разбіты вораг быў тады,
Не памыліўся
Генерал Раеўскі.

У сэрца попел стукае
Штодзень.
Мы помнім нашы Боркі
І Хатыні.
А хто да нас са зброяю
Ідзе,
Ад вынішчальнай зброі
Сам загіне.

...Наўзбоч шашы
З Бабруйска ў Магілёў
Стаіць на ўзвышшы
Белая капліца,
Вартуе,
Нібы пільная арліца,
Мір прыдняпроўскіх соснаў
І палёў.

# *З надзеяй*



Прыкметна мацi
Нашы пастарэлi,
А нашы дзецi
Вучацца лятаць.
Мая дачка
Садзiцца на арэлi
I просiць
Iх павышай разгайдаць.

Мая дачка,
Кiрпатая Алёна,
Смуглявая,
Як жытнi каласок.
Над ёю ззяе неба
Незамглёна,
Звiнiць
Яе шчаслiвы галасок.

...Было.
Жывыя ў полымi гарэлi
Старыя, дзецi...
— Страшна
I прыснiць!
...Будуем
Касмадромы i арэлi
З надзеяй
Свет ад войнаў заслапiць.

# *Магілёўшчына*



Магілёўшчына,
Кут мой айчынны,
Далячыні —
Канца не відаць...
І з якое
Такое прычыны
Я павінна
Цябе пакідаць.

І з якое
Такое нагоды
Мне шукаць трэба
Лепшых мясцін.
— Я люблю
Твае долы і воды,
Звон бяроз
І трымценне асін.

Боль сардэчны
Мне гояць чаборам
Ды жывіцай
Гаі і бары.
...Можа, клімат сушэйшы
За морам,
Весялейшыя, можа,
Сябры.

Толькі знаю,
Мне там будуць сніцца
І стаяць уваччу,
Як папрок,
Дубавое тваё,
Баравіца,
Баравая
І Буда-Хвайніца,
Ясны Лес
І Высокі Барок.

# *Чыстыя званы*



*Памяці Аляксея Пысіна*

I

Снежаньскі бясснежны Магілёў
Ад вятроў аглух.
Не адлёт журботных жураўлёў —
Хмар пахмурных рух
Кінуў на рудыя мурагі
Цёмны цень крыла.
...Дружа мой, настаўнік дарагі,
Позна я прыйшла.
Могілкі, бязлістыя кусты...
Пастаю без слёз.
Ты цяплом бацькоўскай дабраты
Саграваў мой лёс.
Гэтак нечакана адышоў...
Гліністы грудок...
— «Я ў сваю дывізію пайшоў...» —
Усплыве радок.

II

Гаючы сок, як ток, працяў галіны.
Ён абудзіў бярозу і сасну.
Ізноў прыйшоў твой месяц імянінны,
І брама расчынілася ў вясну.

Нат у куту маўклівага малення
І бронзавых па мармуры радкоў
Лунае дух жыцця і абнаўлення
Над прэлым дзёрнам глiністых грудкоў.
Як прагна сёння дыхае іглiца,
Вільготны жвір і ржавая жарства,
А рэквіем магіл імкнецца зліцца
З сімфоніяй зямнога хараства.
Як водгулле апошняе даніны
Усім, хто йшоў і не дайшоў з вайны,
Вітаючы твой месяц імянінны,
Б'е жаўранак у чыстыя званы.

III

У вершах прызнаваўся, што хацеў
Ты цэлы свет засеяць дабрынёю.
Снарад з вайны мінулай даляцеў
Да сэрца, не закрытага бранёю,
Або стаміўся ты на той сяўбе,
Ды гэтак, што не змог дайсці дадому?..
І, правіла парушыўшы, табе
Прынесла я тры ружы.
Як жывому.

IV

Здавалася, ты будзеш жыць і жыць
Сярод людзей, настаўнік дарагі.
Вось на стале перада мной ляжыць
Твой першы том. А побач — том другі,
Ён мне тваёй надпісаны рукой...
Туды жывым дзвярэй не адчыніць,
Дзе так раптоўна ты знайшоў спакой.
А можа, й там душа твая шчыміць?..

Шчыміць за неўзараную раллю,
За ссохлы лес, за рыб у невадах.
За даўняе жыллё людзей — Зямлю
І за яго высокі зорны дах.
Мір пасяліўся ў нашыя дамы.
І — сорак год — любі, будуй, жыві!
...А ты — баец. І два твае тамы
У каленкоры колеру крыві.

* * *



У даўніну зыходзіць завядзёнка
Пускаць на плынь купальскія вянкі.
Дзве рэчачкі — Пясчанка ды Студзёнка
Імкнулі да Бярэзіны-ракі.

Сцюдзёная Студзёнка калыхала
На хвалі белай лотаці лісты.
Пясчаная Пясчанка намывала
Не беражок пясочак залаты.

Дзве рэчачкі — Пясчанка ды Студзёнка
Па лугавой старонцы ды лясной
Віры кружылі, плёскаліся звонка,
Шумліва разліваліся вясной.

Бярэзіну-раку яны трымалі
Сабой. Яна ўбірала на вяку
З адной — ласкавасць прахалоднай хвалі,
З другой — пяшчоту цёплага пяску.

Дзве рэчачкі — Студзёнка ды Пясчанка,
Як дзве дачкі у мацеры-ракі.
І ты, мая матуля-бабруйчанка,
Таксама нарадзіла дзве дачкі.

Хто, як не ты, трымала нас па ўлонні
І басаною вадзіла па траве,

Чые ж тады, як не твае далоні
Нас гладзілі, малых, па галаве?..

Дзве дочкі, як дзве рэчкі. Гэтаксама
І нашых дзён нямала ужо сплыло...
Ці данясём, не распляскаўшы, мама,
Табе сваю пяшчоту і цяпло?..

На абалонь я выйшла золкім ранкам.
Задумная, прысела на грудок.
Дзве рэчачкі — Студзёнка ды Пясчанка
Пастукаліся ціхенька ў радок.

# *Не дым вайны*



Не дым вайны,
А ранішні туман
Плыве з лагчыны,
Сцелючыся нізка...
Радзімы твару
Дарагая рыска,
Між стромкіх соснаў —
Зорка абеліска.
Тут пахаваны
Юны партызан.

Ён маляваў
Звычайным вугальком.
А ў тую ноч
Атрад павёў з аблогі.
Усчаўся бой
На ўзлеску, ля дарогі.
Хаваўся ў хмары
Месяц крутарогі...
Юнак не стаў,
Як марыў, мастаком.

Ён на світанні
Паміраў ад ран.
Апошні прывід:
Ён малы і босы...

Казычуць ногі
Чэрвеньскія росы...
Смяецца мама,
Папраўляе косы...
А пад-над лугам —
Ранішні туман.

Каму, зязюля,
Лічыш ты гады,
Ці не яму?
Яго схаваў пагорак
Пад зоркай,
Што з сузор'я вечных зорак.
Даўным-даўно
Было б яму за сорак,
А ён і сёння
Гэткі ж малады.

У кепачцы,
Зусім яшчэ пацан,
Глядзіць
Патрабавальнымі вачыма:
А ты,
Што ты зрабіў дзеля Айчыны,
Дзеля таго,
Каб заўтра плыў з лагчыны
Не дым вайны,
А ранішні туман?

# *Сіманаўскі камень*



Іх шмат, камянёў,
На славянскай зямлі:
Адны з іх па бровы
У глебу ўраслі —
Замшэлыя сведкі
Сваой даўніны,
Набегі качэўнікаў
Помняць яны.

Каменне падмуркаў
Маёнткаў старых
Прыгоннага люду
Хавае уздых.
Той камень —
Сабой мацаваў казэмат.
Той камень —
Абліты крывёй барыкад.

Над Бугам
Каменне разбітай сцяны
Гарэла пажарам
Мінулай вайны.
Нямала каменных
Жалобных слупкоў
Стаіць над магіламі
Паўшых байцоў.

Пачаўся мой род
З магілёўскіх мясцін.
Байцом тут
І Сіманаў быў, Канстанцін.
А потым
Напісаны кнігі былі
Пра мужнасць
Маёй шматпакутнай зямлі.

І вось да сяброў,
Што не выйшлі з баёў,
Ён прахам вярнуўся
На поле сваё.
А мы — маладыя.
Нам выпала жыць.
...Ля Буйніч
Агромністы камень ляжыць.

Той волат каменны
Пабачыш здалёк.
Блішчыць ля падножжа
Расой васілёк.
Ляжыць нерухома
Ля самай шашы
Той камень,
Які мне не скінуць
З душы.

# *Язмін сорак першага года*



Радзіму пайшоў берагчы,
Даверана сыну граніца.
А маці не спіць уначы,
Каторую ноч ёй не спіцца.
Вось, думае, вернецца сын,
Нявесткаю стане нявеста...
Буяе духмяны язмін
На ціхіх ускраінах Брэста.

А ўжо даспяваюць даўно,
Як гронкі, варожыя змовы.
Фашысты з газет і ў кіно
Крычаць апантана прамовы.
Шчэ коціцца лета ў зеніт,
Шчыруе навокал прырода.
Лагодзіць сабой краявід
Язмін сорак першага года.

Не чэрвеньскі гром загрыміць,
Успыхне не зрок бліскавіцы —
Парвецца нябачная ніць,
Завяжацца бой на граніцы.
Між небам, вадой і зямлёй
Парушыцца вечная згода,
І будзе абліты крывёй
Язмін сорак першага года.

Не ведае маці пакуль,
Што побач пагроза начуе.
Шалёнага посвісту куль
Ні слыхам, ні сэрцам не чуе.
Запомнім на векі вякоў
Байцоў пагранічнага ўзвода:
Застыў у вачах юнакоў
Язмін сорак першага года.

Не стоміцца маці чакаць
І год, і чатыры, і сорак.
І будуць салдаты ляжаць
Пад строгай жалобаю зорак.
І доўгая будзе вайна,
І подзвіг свяшчэнны народа.
...А покуль цвіце ля акна
Язмін сорак першага года.

# *Юная слухачка*



Звычайна просяць:
«Пачытайце вершы
Пра маладое шчасце,
Пра каханне».
А я ўсё
Пра далёкі сорак першы
Ды пра вайны
Пякельнае дыханне.

Ужо дзяўчаткі
Шэпчуцца патрошкі.
Адна ў куточку
Нават пазяхнула:
Яе вачэй
Цікаўныя валошкі
Нібы смугою
Шызай зацягнула.

Яна ляніва
Прыкрывае векі.
На твары —
Абыякавасці цені,
Бы вершы не пра боль,
Які навекі,
А пра даўно не моднае
Адзенне.

Няўжо ж
І пад журботны звон Хатыні
Не сцісне горла ёй,
Як ад удушша?..
Не дам пакласці
Нашае святыні
Пад нерухомы камень
Раўнадушша.

# *Сумнае спатканне*



Сягоння я
Прыехала да таты
У кут,
Дзе агароджы і крыжы.
На камяні
Дзве бронзавыя даты —
Жыцця
Дзве непазбежныя мяжы.

А паміж імі —
Хлопчык басаногі,
Рыбалка,
І вучоба, і вайна.
І палявыя
Пыльныя дарогі,
І клопат,
Што з цямна і да цямна.

Няўжо цяпер
Не трэба ў поле рана,
Не трэба
Клапаціцца аб сяўбе?
...Так, поле летась
Без цябе ўзарана,
І даспявае жыта
Без цябе.

Ты не скідаў
Салдацкай гімпасцёркі,
Хоць мір
Усталяваўся на зямлі.
Няхай не даслужыўся
Ты да Зоркі
Ні на вайне,
Ні потым, на раллі.

Тваё жыццё
Як мае быць пражыта.
І наша поле
Шле табе паклон:
Да самай сцежкі
Кланяецца жыта,
Галоўкі нізка
Нахіляе лён.

І я схілюся.
Кветкі — як на свята.
На іх раса
Ці след нядаўніх слёз.
...Аб чым ты хочаш
Расказаць мне, тата,
Таемным шэптам
Соснаў і бяроз?

## *Ён і яна*



У мядовым гэтым месяцы
Быў і месячык, што мёд.
Як зайздросцілі равесніцы...
— Грукнуў ботамі у вясніцы
Сорак першы чорны год.

Наляцеў крумкач няпрошаны,
На крыле прынёс бяду.
Хоць лужок быў недакошаны,
На застолле ўсе запрошаны...
Ён сказаў: «Чакай! Прыйду».

А прыйшоў у сны цудовыя
Незабыўна-малады.
А яе ссушылі ўдовыя,
Непрыкаянна-бядовыя
Ды няспраўджана-мядовыя
Палыновыя гады.

# *Родныя мясціны*



Дзе рэчка робіць паварот,
Цішэе і мялее,
Дзе мы яшчэ падлеткамі
Любілі загараць,
Люляе хваля плыткая
Бялюткія лілеі,
І жоўтыя гарлачыкі,
Як лямпачкі, гараць.

Я толькі тут, я толькі тут
Душой адпачываю.
А сэрца прагне зноў гарэць,
І верыць, і любіць.
Я толькі тут, я толькі тут
Трывожна адчуваю,
Як мала значнага ў жыцці
Паспела шчэ зрабіць.

Бягуць пакатым берагам
Дзве вузкія сцяжынкі,
І спеліць сонца шчодрае
Багаты ураджай —
Рыхтуе поле жытняе
Жаданыя зажынкі.
Часова справы адкладзі,
Пакінь — і прыязджай.

А там і лета бабіна
Развесіць павуціны...
Там каляровы лістапад...
Там рух вясновых крыг...
Любой парою прыязджай
У родныя мясціны:
Святла, і сіл, і дабрыні
Вазьмі сабе ад іх.

Бо толькі тут, бо толькі тут
Душой адпачываеш.
А сэрца прагне зноў гарэць,
І верыць, і любіць.
Бо толькі тут, бо толькі тут
Трывожна адчуваеш,
Як мала значнага ў жыцці
Паспеў яшчэ зрабіць.

* * *



Маладая трывога дарогі,
Непатольная прага жыцця.
Але ж некалі стомяцца ногі
На сцяжынах зямнога быцця.

Не сябруюць з пажылым узростам
Стройнасць стану і лёгкасць хады.
Неўпрыкмет, як дарожныя вёрсты,
Прамільгнуць за гадамі гады.

Толькі знаю, не стоміцца вока
Спасцігаць прыгажосць спакваля.
Век пражыў, азірнешся навокал —
Тое ж неба і тая ж зямля.

Тыя ж зоры гараць на дасвецці,
Тыя ж травы расою мігцяць,
Тыя ж дрэвы заломваюць вецце,
Тыя ж птушкі у вырай ляцяць.

Знаю, веру, не стоміцца сэрца
У званы чалавечнасці біць,
І дзіцячай усмешкаю грэцца,
І жыццё безаглядна любіць.

* * *



Думка пра зносіны з сусветнай прасторай не пакідала мяне ніколі.

К. Э. Цыялкоўскі

Завейнае змярканне,
Палазы,
Рыпучы снег
Ды свіст раменнай пугі.
Па вузенькіх
Завулачках Калугі
Галодныя гуляюць
Маразы.

А неба,
Быццам шэрае сукно,
Бяздушнае, бязмоўнае,
Глухое.
І толькі ў нізкім доме
Пад страхою
Самотнай зоркай
Свеціцца акно.

...На ежу забываўся
І на сон.
І жах на абываценя
Наводзіў,
Калі імчаўся на каньках

Па лёдзе,
Раскінуўшы
Звычайны парасон,

І гэтак сілу ветру
Правяраў.
Аб чым жа марыў ён
Начамі доўгімі,
Абкружаны макетамі
Ды колбамі,
Калі чарціў, разлічваў,
Вымяраў?

А мара тая
Дзёрзкаю была:
Зямля павінна гутарыць
З сусветам,
Пасланць свой голас
Зоркам і планетам,
Сузор'ям Скарпіёна
І Арла.

Ды толькі ён
Ці гэтага хацеў,
Калі ўяўленняў звыклы свет
Парушыў,
Каб SOS зямны —
«Ратуйце нашы душы!»
У іншыя галактыкі
Ляцеў?!

# *Сосны ў жыце*



Колькі іх такіх ля Магілёва
Вёсак паміж сосен і бяроз...
Нездарма спрадвеку наша мова
Гукамі з'яднала з словам слова —
Роднасныя словы «лес» і «лёс».

Вось яны, знаёмыя мясціны,
Дзе маленства сцежкі праляглі.
Тут калісьці бор шумеў гасцінны
Ды сплятаў хвою павуціны.
Тут цяпер жытнёвыя палі.

Дзе ж вы, сосны? Сосны, раскажыце
Пра пякельны горкі час вайны!
...Аблачынка плавае ў блакіце.
Тры сасны стаяць у спелым жыце.
Счуўся шолах першае сасны:

— Партызаны — мужныя рабяты.
Горды лёс ім помнікам служыць.
З бою йшлі лясныя арляняты,
Тут хавалі сябра ў сорак пятым —
На маіх карэннях ён ляжыць.

І сасна другая прашаптала:
— Паштальёнам я была лясным.
Колькі звестак я ў дупле хавала...

Помнікам і я, старая, стала —
Помнік я адважным сувязным.

Трэцяя сасна шапнула проста:
— Недарма расту я на зямлі.
Хоць сябровак не дагнала ростам,
Помнікам стаю народнай помсты —
Здрадніка гайдала я ў пятлі.

Помняць сосны воклічы чужыя,
Каскі, аўтаматы на плячы.
Тут палалі дрэвы маладыя.
Засталіся тры сасны жывыя
Зелянець і памяць берагчы.

...А навокал ззяюць далячыні.
Льецца сонца мірнае з нябёс.
Я гляджу шчаслівымі вачыма...
— Хай заўжды ў цябе, мая Айчына,
Сонечнымі будуць лес і лёс.

# Прадвесне



Прадвесне — непазбежнае прадвесце
Руплівай гаспадарчае пары.
Зграбаюць гаспадыні ў градах смецце,
І з выглядам вучоных рэжуць веццe
На дрэвах у садах гаспадары.

Ля вогнішчаў крычаць падлеткі-хлопцы,
Хіба адгоніш хлопцаў ад кастра!
Галоўны кіраўнік па адцілоўцы
Унізе — мама ў ботах і ватоўцы,
А я — на дрэве (за гаспадара).

Працую я нажоўкаю да поту.
Піла, што бабін подсвінак, вішчыць.
Мне праца непрывычная ў ахвоту.
І нечакана чую я з-за плоту:
— Глядзі, як ярка яблыня гарыць!

Як тыя словы сэрца закранулі.
Ці ж можна так спакойна гаварыць,—
Бы з аўтамата раптам паласнулі
І недзе побач прасвісталі кулі:
— Глядзі, як ярка яблыня гарыць!

...Ішлі яны: эльзаскі, рэйнскі, прускі,
Ішлі да нас, нібыта на парад.

Ды багнаю сустрэў іх дол наш грузкі,
І трапным стрэлам бор наш беларускі,
І змоўніцкай маўклівасцю наш сад.

Каля кастроў фашысты рукі грэлі.
Поўз чорны дым. Рабіўся чорным свет.
Як ярка, страшна яблыні гарэлі —
І тыя, што заўчасна пастарэлі,
І тыя, што надзелі першы цвет.

Сады, ў якіх любілі і спявалі,
Красу зямлі, прыроды шчодры дар
«Гаспадары» нахабныя ссякалі.
І дрэвы пладаносныя палалі.
Але прыйшоў сапраўдны гаспадар!

З агню баёў прыйшоў, сказаў: — Даволі!
Мы хочам мірна жыць, зямлю араць,
Расціць сады.
...Звініць званок у школе.
Хачу, каб дзеці нашыя ніколі
Не ўбачылі, як яблыні гараць!

* * *



На ўскраіне «прыватныя» сады
Абнесены высокімі платамі.
І, мабыць, ад гарэзлівай дзятвы
Акружаны калючымі дратамі.

Равеснік, мы з табой — ні я, ні ты —
Не чулі слёзны лямант і праклёны
Людзей, якіх за ржавыя драты
На згубу гнаў фашыст, як звер шалёны.

Той страшны міг не згубіцца ў вяках,
Хаця ўявіць такое немагчыма.
Дасюль жанчына з дзіцем на руках
Глядзіць на свет бяздоннымі вачыма.

Глядзіць яна з тых жудасных часоў
У кожны твар і ў твар свайму дзіцяці,
І пасмы пасівелых валасоў
Над маладым чалом пакутнай маці.

Іду з малой дачушкай паўз платы.
З-за іх вясновы спеў шпакоў нясецца.
А ржавыя калючыя драты
Балюча мне ўпіваюцца у сэрца.

* * *



Прырода шэпча:
— Будзь шчаслівы...
Прыходзіць май —
Ва ўсе вякі.
— Шчаслівы будзь! —
Шумяць разлівы.
— Шчаслівы будзь!—
Звіняць шпакі.

З жывым сусветам
Сэрцам ладзіш,
Шчаслівы тым,
Што й сам жывы.
Малы званочак —
Першы ландыш
Глядзіць даверліва
З травы.

Яго на ўзлеску
Прыдарожным
Не растапчы,
Не паламай...
Стаў для Радзімы
Пераможным
У сорак пятым
Месяц май.

...Рупее жыта
Ля дарогі,
І печаканы
Гром вясны
Гучыць то залпам
Перамогі,
То грозным выбухам
Вайны.

Трывожна
Дыхае планета.
На ёй мы дома,
Не ў гасцях.
Шчэ хтосьці марыць,
Знаю гэта,
Аб раі
На чужых касцях.

Такога раю
Не бывае.
Пара б нарэшце
Зразумець!
Жахліва ведаць
Мірным маем,
Што недзе блізка
Спее смерць.

Нацэліў сад
Пупышкі слівы,
Як рыльцы
Ядзерных ракет.
Паэт не можа
Быць шчаслівы,
Калі ў трывозе
Цэлы свет.

## *Ля Вечнага агню*



Нявеста — уся ў снежна-белым,
Уся — цнатлівасць і святло.
Трапеча за плячыма вэлюм,
Як лебядзінае крыло.

Прыціхлі строгія суседкі,
І дзень струменіць дабрыню.
І маладыя моўчкі кветкі
Нясуць да Вечнага агню.

Фатограф мітусіцца: — Кветкі
На першы план. Вось так. Гатоў!
— Хвілінку, хай збяруцца сведкі
З усіх напрамкаў і франтоў.

З-пад Курска, Кіева і Брэста,
Сталіц і вёсачак малых,
Твае равесніцы, нявеста,
Твае равеснікі, жаніх.

Яны не кінуцца ў абдымкі,
Не заспяваюць «Ручнікі».
Яны не трапілі на здымкі,
Хоць вашы сведкі на вякі.

Як, пэўна, хочацца рабятам
Нарэшце скінуць шынялі

Ды паглядзець на ваша свята,
Бо да свайго не дажылі.

...Паветра на зямной арбіце,
Нібы напятая струна.
Любіце, юныя, любіце
За ўсіх, каго ўзяла вайна.

Я веру, ўзяўшыся за рукі,
Шчаслівыя, насустрач дню,
І дзеці прыйдуць і унукі
Сюды, да Вечнага агню.

* * *



Скача маладосць пад групу «рок».
Лёгенька ў юнацтве носяць ногі.
Затрашчаў, не вытрымаў шнурок.
Пацеркі — ва ўсе куткі падлогі.

Скачуць маладыя — не суняць.
Адыдзіся ўбок, хто замінае!
Не прычына музыку спыняць —
Пацерка празрыстая, шкляная.

Грамавы раскат пад небам хмарным.
Музыка — адметны каларыт,
У палон бярэ няўмольны рытм.
Перавага поўная — ударным.

Не магу пазбыцца пачуцця
Нейкага нібыта раздваення:
Гэты рытм — стваральны рытм жыцця
Альбо рытм шалёнага ўзбраення?..

Гэта што, прароцтва ці падман,
Калі сон паслужліва рысуе
Час, калі сусветны акіян
Рытмам вынішчэння запульсуе.

Рытм прывычны — працы нашай дні.
Рытм няспынны — клопаты да скону.

Дайце тры хвіліны цішыні
Па марскому даўняму закону.

Каб пачуць крыштальны звон расы,
Каб пачуць, як травы прарастаюць,
Каб пачуць людскія галасы:
Просяць, патрабуюць, заклікаюць

Спаленае ў Борках немаўля,
Дэманстрант, у Ольстэры забіты.
...Пацеркай блакітнаю зямля
На шнурочку тоненькім арбіты.

# *Жаданне*



Выйду на ганак
Змярканнем замглёным,
Моўчкі пакратаю
Голле кустоў...
Падаюць зоркі
Не з неба, а з клёнаў,
Зоркі буйныя
Апошніх лістоў.

Гэткае ёсць
Паміж даўніх паданняў:
Падае зорка —
Хутчэй загадай,
Многа няспраўджаных
Маеш жаданняў,
Ды аднаму
Перавагу аддай.

Славы? — Не трэба.
Багацця? — Не трэба.
Сэрца
Святлом не напоўняць яны.
...Падае зорка,
Не з клёна, а з неба.
Я загадала:
Не будзе вайны!

# *Балкон*



Заўсёды тут стаяў
Веласіпед.
Цяпер пад ветрам
Сушацца пялёнкі.
Як добра,
Што з'яўляюцца на свет
Маленькія
Дзяніскі і Алёнкі.

На шыбах
Сонца плешчацца рака,
Малы пакойчык
Залівае зранку
У міг,
Калі жаночая рука
Насустрач дню
Адсоўвае фіранку.

І гордая,
Маўляў, глядзіце ўсе
(Не ганарыцца шчасцем ёй
Няможна),
Жанчына на балкон
Дзіця нясе,
Пакуначак
Трымае асцярожна.

Ружовы і пяшчотны,
Як зефір,
Увесь жыццём напоўнены ён
Новым.
...А пад балконам —
Лозунг «Мы — за мір!».
Хто сёння не паверыць
Гэтым словам?!

# *Марш міру*



Небасхіл
Незамутнёна-весні
Над галінкай
Бэзу і інжыру.
Нашы сталь
І кужаль,
Хлеб
І песні —
Справе міру.

Маці Ленінграда
І Ханоя,
Маці Кампучыі
І Алжыра,
Вам вядома,
Што гэта такое,
Прага міру.

Мір дзятве
Лівана і Анголы,
Мір дзятве
Сахары
І Паміра.
...На малюнку дочкі —
Белы голуб,
Птушка міру.

Выглянула
Першая пралеска.
Спеў вясны
Даносіцца з эфіру.
Быў і год
Аб'яўлены ЮНЕСКА
Годам міру.

Новы дзень
Павінен быць святлейшы,
Свет — дабрэйшы,
Толькі дбайце шчыра.
Зробім век наступны,
Дваццаць першы,
Векам міру!

Хмельным сокам
Набрыняла вецце.
Ручаёк
Бяжыць-звініць па жвіру.
Сакавік
Праходзіць па планеце
Маршам міру.

# *Родны горад*



Узняўся горад мой
На беразе высокім
Зусім не гаваркой
Бярэзіны-ракі,
Што да Дняпра цячэ,
І светлыя аблокі
Над горадам плывуць
Павольна, як вякі.

На беразе крутым
Устану на прадвесні,
І мне напомніць крыг
Непераможны рух
Зубцы драўляных стрэх
Сівой славянскай весі
І мовы продкаў нашых
Мілы сэрцу гук.

Адчую скрозь вякі
Пажараў дым барвовы,
Засілле моў чужых
І іншых рас прыгнёт,
Бо вабіў іх спрадвеку
Цёмны мех бабровы,
І карабельны лес,
І бурштыновы мёд.

Мой горад, бачыў ты
Татар нахабных орды,
Тэўтонскіх рыцараў
І польскіх ваявод.
Таптали гонар твой,
А ты застаўся гордым,
Няскораным застаўся
Ты і твой народ.

Ты выстаяў і усё ж
Застаўся беларускім,
Свабодным, як твая
Вялікая радня.
Далёкі продак мой
Назваў цябе Бабруйскам,
І ты збярог імя
Да сённяшняга дня.

Якім пяром пісаць
Гісторыю тваю?
Гісторыя твая —
Гісторыя Радзімы.
Так я зямлі сваёй
Абшары пазнаю
Па кветачцы адной,
Па кусціку адзіным.

Калонкай гучных дат
Яе не ахапіць,
О, не... Яе дыханне
Адчуваю сэрцам,
Калі бяссонны дождж
Над прыстанню шуміць,
Калі ў застоллі песня
Даўняя пяецца.

Калі ў пахмурны час
З Бярэзіны вятры
Пагрозліва гудуць
Над крэпасцю старою.
Калі чуваць шчаслівы
Гоман дзетвары
На вуліцах тваіх
З імёнамі герояў.

Калі кранае ўсход
Дзевяты твой паверх,
І, як жывы, Ільіч
На пастаменце строгім,
Імклівую далонь
Ускінуўшы уверх,
Вітае новы дзень
На плошчы Перамогі.

# *Вечная любоў*



Бацькоў мы любім
З ранняга маленства.
Ды горкі лёс
Нікога не міне:
Пакінуўшы
Нам твараў падабенства,
Бацькі адыдуць,
Каб з'явіцца ў сне

Або на полі
З жытнімі снапамі,
Або на сцежцы
З кошыкам грыбоў...
Любоў да блізкіх
Перальецца ў памяць.
Ці ж ёсць на свеце
Вечная любоў?..

Мы любых
Нечакана сустракаем,
Як летні гром
З маланкай і дажджом.
Спачатку песцім,
Потым прывыкаем,
Нарэшце
І зусім не беражом.

То рэўнасць дапякае нас,
То зайздрасць,
І вось ужо ад злых,
Калючых слоў
Любоў
Ператвараецца ў нянавісць.
Ці ж ёсць на свеце
Вечная любоў?..

Ды ёсць куточак
Ціхае радзімы,
Дзе твой прыход у свет
На схіле дня
Віталі калісь
Сціплыя радзіны.
Там што ні двор,
То шчырая радня.

Да рэчкі той,
Дзе спіць аер пахілы,
Да тых старых,
Разложыстых дубоў,
Да той зямлі,
Дзе родныя магілы,
Адна на свеце
Вечная любоў.

* * *



*Памяці Мікалая Рубцова*

Страла Астанкінскае вежы
Цаляла ў воблак малады...
Там, на рамонкавым узмежжы
Юнацтва лёгкія сляды.

Між нас, што белая варона,
Ў нямодным доўгім паліто.
Як выглядаў безабаронна,
Як зорка бачыў, хто ёсць хто.

Мы знalі Колевы прывычкі,
Яго прагулкі ў шэсць гадзін.
Але праводзіць электрычкі
Ён не любіў хадзіць адзін.

Там цікаваў ён вокам чорным,
Як утвараецца патоп,
Калі бетонныя платформы
Людскі запруджвае натоўп.

То засяроджваўся маўкліва,
А то рабіўся гаваркі,
Тады дасціпныя надзіва
Экспромтам выдаваў радкі.

Казаў, што кніжка мае попыт.
Ужо, здаецца, й вучні ёсць.
І з лішкам ёсць жыццёвы вопыт,
Шкада, мінула маладосць.

— А вам няма па дваццаць, чэрці.
Якое гэта пачуццё!
І што там нейкае бяссмерце,
У вас наперадзе — жыццё!

* * *



Ледзьве чутна
Граюць на вадзе
Замшавыя
Пальчыкі чароту...
РБУ дарожнае
Вядзе
Свой рамонт —
Адвечную работу.

Раскідаюць
Гравій мужыкі
Дружна,
Не зважаючы на кпіны.
Сонца
Ды асфальтныя дымкі
Прасмалілі
Твары ім ды спіны.

А калі
Напружаны каток
Масу
Як належыць адпрасуе,
Пабяжыць машын
Жывы паток,
І шаша
Прывычна запульсуе.

Чалавек
Да трасы не глухі,
Ведае,
Вядуць да перамогі
Не адны
Касмічныя шляхі,
А й зямныя
Нашыя дарогі.

# *Дарога дадому*



На шыбе —
Дажджынак вясёлая ртуць,
І лашчыць мне ветрык
Гарачыя скроні.
Пясчаная пойма.
Спакойная Друць —
Блакітная жылка
На смуглай далоні.

Чарнявы вадзіцель
Да трасы прывык,
Ёсць асы свае
На зямлі і на моры.
Круты паварот —
Гэта «цешчын язык»,
Яго гэтак трапна
Празвалі шафёры.

Як радуе вока
Вільготны мурог.
Душа атрасае
Здранцвеласць і стому.
На свеце няма
Даражэйшых дарог,
Як гэта —
Дарога да роднага дому.

* * *



Парэчак вясёлая чырвань
Ды чырвань пыхлівая руж —
Святкуюць сады мае чэрвень,
Як быццам не бачылі сцюж.

Нядаўна здаваўся бясконцым
Палон снегавейнай зімы,
А сёння купаюцца ў сонцы
Прысады, двары і дамы.

За плотам з дзятвою суседскай
Дачушка гуляе ў пясок,
І з ветрыкам лёгкім нясецца
Лагодны яе галасок.

Звініць, аж пакуль на дарожкі
Начны не апусціцца цень.
...Маленькія стомяцца ножкі
За доўгі няўрымслівы дзень.

Спяю я малой калыханку,
Як маці умеюць спяваць:
— Засні, мая донька, да ранку.
І дрэвы, і птушачкі спяць.

Акрэсліўся месяц павольны,
Палын задрамаў на мяжы...

Наш татка не з намі — ён вольны,
А лепей сказаць, ён — чужы.

А мне ж у табе, чарнавокай,
Уцеха і радасць жыцця...
Хіба назавеш адзінокай
Жанчыну, што мае дзіця?

Гляджу, як дачка засынае,
І поўніцца шчасцем душа.
І рух свой, здаецца, спыняе
Зямны заклапочаны шар.

# *Вечнае поле*



У кожнага —
Сваё і непаўторнае
Жыццё
І свой наканаваны век.
Ты бачыў поле
Роўнае, прасторнае —
У ім згубіцца можа
Чалавек.

Над старажытным полем
За Няпрадваю
Да сонца ўсходзіў
Горды сцяг славян.
І засяваў Кастрычнік
Мудрай праўдаю
Скупое поле
Землякоў-сялян.

Ты помніш поле
Нашае ўчарашняе —
Варонкі, міны,
Полымя і снег?..
Было яно
Счарнелае і страшнае.
На гэтым полі
Гінуў чалавек.

Адкрылася
Мне ісціна бясспрэчная:
Гуляючы,
Не пройдзеш па жыцці.
І кожны дзень,
Як тое поле вечнае,
Якое
Неабходна перайсці.

* * *



Няма ні прыкрасці, ні злосці,
І не пагасла сонца,
Хоць звонкі келіх маладосці
Мной выпіты да донца.

І вабіць зрок усхваляваны
Галлё рабіны тонкай —
То хмеліць квеценню духмянай,
То спакушае гронкай.

Закон прыроды. Непазбежнасць.
Навошта наракашні.
Спякота млосная і снежнасць,
Світанні і змярканні...

Хай скроні сціснуць мне маршчыны —
Тугое перавясла.
Пакуль гарыць святло Айчыны,
Жыццё маё не згасла.

* * *



*Леаніду Дайнеку*

Ткала журбой няволя
Слуцкія паясы.
Іх золата — з роднага поля
Жытнія каласы.

Маўклівыя беларусы
Цярплівыя да пары...
— З табой, сінявокі і русы,
Даўнія мы сябры.

Рэдкія нашы стрэчы.
Стрэнемся незнарок,
Прыкмечу: прыгнуліся плечы
І пацяжэў твой крок.

У цыгарэтным дыме
Стомленым здасца твар.
— Запомнім сябе маладымі,
Дзёрзкасць юнацкіх мар!

Часам няроўна дзеліць
Той, хто завецца «бог».
А ты не губляў надзеі,
Многае перамог.

Светлая твая доля.
Светлыя валасы.
Сыны твае — роднага поля
Жытнія каласы.

# *Бабуліны дажынкі*



Раптоўна бліснуў
Месяц-маладзік,
Як серп бабулін,
Па-над жніўным летам,
Па-над палеткам,
Сто разоў апетым,
Імгненна бліснуў —
І за хмарай знік.

Успомню —
Вусны здрадліва дрыжаць:
У хустачцы бялюткай,
Як на свята,
Бабуля жыта,
Што расло за хатай,
Выходзіла з сярпом
На золку жаць.

Апоўдні ж
У апошні свой снапок,
У перавясла,
Кветачкі ўплятала,
Яго дахаты несла,
Штось шаптала
Ды пад ручнік
Прыладжвала ў куток.

Казала:
— Бач, раве калгасны ток.
Цяпер і ўночы
Жыта жнуць камбайны.
Калгас,
Ён гаспадар, канечне, дбайны,
Ды дзе-нідзе
Губляе каласок.

А ў каласку —
Святое зерне, хлеб.
Пабеглі б, дзеткі,
Трошкі пазбіралі...
У тую ж восень
Бабку пахавалі.
Ржавее на гарышчы
Бабчын серп.

...На могілкі старыя,
На лясок
Упалі ціха
Першыя дажджынкі.
— Мне нагадаў
Бабуліны дажынкі
На ржэўніку забыты
Каласок.

* * *



Ой, рэчанька-рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?..
З народнай песні

Калі залівала паводка
Увесь наш зарэчны раён,
Рабілася нараю лодка,
Што ладзіў стары Радзівон.

І вось надыходзіла лета
У шызай спякотнай смузе.
З надзеяй мы беглі да дзеда,
І дзед нас катаў па чарзе.

Ён нас ушчуваў, непаседаў,
Вяслом падграбаў пакрысе...
І нехта цікавіўся: — Дзеду,
Куды гэта рэчка нясе?

Стары пазіраў задумённа
На хвалю, на бліжні лясок.
Нарэшце казаў улюбёна:
— Бярэзіна наша — прыток.

Бяжыць з-пад бярозы, з крыніцы.
У вусці ўпадае ў Дняпро...
Калі ж пачыналі дыміцца
Цяпельцы рыбацкіх кастроў,

Бурчаў ён, прыгорбіўшы плечы:
— Мялее дняпроўскі прыток...
Прычаліўшы човен пад вечар,
Чапляў для прыліку замок.

Мы неслі вільготныя вёслы.
Стары запавольваў крок,
Даводзячы нам, як дарослым:
— Мялее магутны прыток...

Ды што мы, дзятва, разумелі!..
У памяці: грукае гром,
Гайдаецца бакен на мелі,
Вяртаецца з стадам паром.

Далёка чуваць на змярканні,
Як трос на пароме рыпіць,
Як плачуць у купінах кані
Ды просяць у некага піць...

...Прыток, ён сягоння не повен.
Пракладзены трубы ў ляску.
Ашчэрыўся шчылінай човен,
Як мёртвы шчупак на пяску.

Дарослымі робяцца дзеці.
Над дзедам — магільны грудок.
Гніюць непатрэбныя сеці,—
Мялее адвечны прыток.

## *Спадчыннае дрэва*



Прадзед мой пасадзіў пад акном
Тонкі пруцік,
каб рос той клянёнак,
Каб як добры зялёны анёлак
Ад няшчасцяў бярог гэты дом.

Клён мужнеў, ён карэннямі дол
Працінаў, ён узносіў галіны.
Быў тут бой, але ў тыя хвіліны
Не пашкодзіла крону і ствол.

А завулак прыйшлі асвятляць,
Зашаптаўся з галінамі ветрык,—
Нават самы сур'ёзны электрык
Не адважыўся клён спілаваць.

Калі дзесь ад'язджаю, здавён
Больш за сад,
за траву маладую,
За пяшчотныя кветкі шкадую
Тое дрэва — мой спадчынны клён.

Рух галіны — узмахам рукі...
Адыдуся — заўжды азірнуся.
Я сюды несумненна вярнуся
Цераз месяц, праз год, скрозь вякі...

Я прыйду і на золку сырым
Пакланюся вячыстаму клёну
За высокую зорную крону
І за вернасць карэнням старым.

# *Запаветная зорка – Радзіма*



На балоні рыкаюць каровы.
Цягне золлю сівой ад ракі,
І пра тое,
што скора пакровы,
Між сабою гамоняць жанкі.

Ты такой мілагучнай гаворкі
Не пачуеш на свеце нідзе.
Як адбітак высокае зоркі,
Ліст кляновы дрыжыць на вадзе.

Я люблю гэты бераг някідкі.
Дробна звоніць галоўкамі лён.
Ты аб чым ля драўлянай калиткі
Зажурыўся, прадзедаўскі клён?..

Патрапаў залатую чупрыну
І абтрос на зямлю лістабой.
Толькі сумныя думкі адкіну,
Што старэем мы, дружа, з табой.

Знаеш ты,
што вясной легкакрылай
Маладыя распусціш лісты.
Новай восенню з новаю сілай
Заструменіш агонь залаты.

Я ж сагрэтая верай адзінай:
Як засну я ў калысцы зямной,
Запаветная зорка — Радзіма
І тады будзе ззяць нада мной.

* * *



*Сястры Эльвіры*

Няма вяртання ў даўнія гады.
Стан пагрубеў і пацяжэлі веі.
Зацерушылі снежныя завеі
Юнацтва бесклапотнага сляды...
— Няма вяртання ў даўнія гады.

Як стрэл раптоўны, памяць апячэ.
Гукне цягнік на досвітку знянацку —
І вось той кут, дзе пахавалі бацьку,
Дзе рэчка запаветная цячэ...
— Як стрэл раптоўны, памяць апячэ.

Наведаеш жытнёвыя палі:
Тут з першымі каханымі блукалі,
Насілі сарафанчыкі з паркалю
І з васількоў вянкі сабе плялі...
— Наведаеш жытнёвыя палі.

Але няма вяртання ў маладосць:
На шчоках зніклі ямінкі-смяшынкі...
Яшчэ знаходзіш даўнія сцяжынкі,
Ідзеш па іх, усхваляваны госць.
Але няма вяртання ў маладосць...

# *Маці*



Ці дожджык раптоўны
Залье сенажаці,
Ці крыўда сустрэне
На сцежках жыцця,
Хто гэтак цябе
Пашкадуе, як маці?
Дарослая,
Ты і цяпер ёй дзіця.

Ў дарогу збірала,
Нібы адрывала
Ад сэрца крывінку,
Дзяўчынку сваю.
А як вінаватых
Яна б пакарала
За кожную
Горкую слёзку тваю!..

Тут зоркі на хвалях,
Тут вёслаў усплёскі,
Тут побач з табою
Сябры даўна.
І ты ўсё радзей
Прыязджаеш у вёску.
А маці старэе.
А маці — адна.

# *Абяцанне*



Маладосць праплыла аблачынкай,
Закацілася сонцам за Сож.
Ці даўно я вясковай дзяўчынкай
Цераз поле ішла басанож...

Залацілася ў сціртах салома.
Між сабой гаварылі жанкі:
«Ці чыталі, дачка агранома
Склала вершык... ды спрытны такі...

Баявы, як патрэбна газетам...
Каб яно ды бліжэй да душы...
Вось як станеш сапраўдным паэтам,
Ты пра наша жыццё напішы.

Як даілі, палолі і жалі,
Недагледзеўшы ранішніх сноў,
Як любілі, дзяцей нараджалі,
Як праводзілі ў войска сыноў...»

Шмат мінулася вёснаў і летаў.
Я на некалькі жнівеньскіх дзён
Ад'язджаю з брыгадай паэтаў
На сустрэчы ў знаёмы раён.

Будзе цесна у клубе вясковым,
Будуць пляскаць і вершаў прасіць.

Я вазьму развітальнае слова,
Вочы ў вочы — ці ж можна схлусіць?..

Выйду я не прамоўцай манернай,
Што з паперак дакучна пяе.
Так скажу я з трыбуны фанернай:
«Дарагія зямлячкі мае,

За агрэхі свае, за няўкосы
Сёння ў вас прабачэння прашу.
А пра вашы няпростыя лёсы,
Абяцаю, усё ж напішу!»

* * *



Шчымліваю
Сардэчнаю струною
У жыце
Перапёлачка дрыжыць...
Як ні было б,
Што б ні было са мною,
Я жыць хачу.
Я доўга буду жыць.

Каб свет трывожыў
Радасцю і болем,
Адорвалі
Усмешкай ці слязой
Лязо маланкі
Над жытнёвым полем
І позірку імгненнага
Лязо...

# *Маёй рацэ*



Мая рака,
Матросы-рачнікі
Вяртаюцца яшчэ на хвалі
Вёснамі.
Ты прадзеду гайдала
Чаўнакі,
Вясёлку пырскаў
Уздымала вёсламі.

Фандоку сосны
Рупна ты вяла,
Яно было надзейна
І нядорага.
Ты гультаём
Ніколі не была,
А ў грозны час
На дно цягнула ворага.

Папрацавалі
Хвалі на вяку,
Нястомныя,
Нібы далоні мацеры.
Насілі баржы
Жоўтага пяску
І белыя
Прагулачныя кацеры.

Цяпер завод
На беразе гудзе.
Шалёна лодкі носяцца
Маторныя,
Равуць
І пакідаюць на вадзе
Мазуту пах
Ды плямы сіня-чорныя.

...Што ў спадчыну пакіне
Гэты век,
Захоплены
Патрэбамі мінутнымі?
— Даруй, рака,
Не бог, а чалавек
Забрудзіў дно
І хвалі робіць мутнымі.

Не трацць
Уласнай сілы пачуццё,
Ты мне павер,
І я не падманю.
Змагацца разам будзем
За жыццё,
За нашу глыбіню
І чысціню.

## *Гракі прыляцелі*



Празрыста
І шчымліва,
Жыццёва,
Без прыкрасаў
На светлы успамін
Для будучых вякоў
Натхнёнаю рукою
Намаляваў Саўрасаў
І дрэвы, і царкву,
І радасных гракоў.

Блакітнаваты снег,
Адталыя пагоркі,
На сцежцы ля камлёў
Птушыныя сляды
І купал той стары,
Нацэлены на зоркі,—
Знаёмае з дзяцінства
І блізкае заўжды.

...Цяпер пустуюць гнёзды
У кронах дрэў вячыстых.
І мокне пад дажджом
Бляшаны дах царквы.
Задумная хаджу
Па залах урачыстых,

Дзе не чуваць прыбою
Кастрычніцкай Масквы.

А бачу: — Родны кут.
У неабдымнай сіні
Плыве касы прамень,
І вецер дзьме з ракі.
І пра жыццё шумяць
Знаёмыя вяршыні.
І пра любоў крычаць
Знаёмыя гракі.

* * *



Абсыпана гнёздамі голле,
Люляе іх вецер скразны,
І млее асмяглае поле
Ў чаканні сырой баразны.

Бяроза пад сонцам хмялее.
Шпакі аж шалеюць на ёй.
І кожны пяе, як умее,
І кожны — з галінкі сваёй.

Пяюць яны лесу і бору.
Заслухаўся кожны сучок.
Ды вось далучыўся да хору
Зусім не прыкметны шпачок.

Завёў, хоць на выгляд і дробны,
На ўсе на чатыры бакі.
...А спеў жа які непадробны,
А голас адметны які!

# *Верш*



Павінен верш
Няўмольным быць, як суд:
Хай з ім забойца ўночы
Не засне,
Хай ён гучыць над катам,
Як прысуд!

Няма такога верша
У мяне.

Павінен верш
Быць вечным, як святло:
Хай вострым промнем
Цемру ён пратне,
Святло баяцца
Невуцтва і зло.

Няма такога верша
У мяне.

Павінен верш
Быць ясным, як акно,
Як весні сад,
Што сэрца ахіне,
Як думка,
Што жыццё ўсяго адно...

Няма такога верша
У мяне.

Я сем вятроў
Адна перакрычу.
Я сем шляхоў няходжаных
Стапчу,
Сем горкіх траў
На тых шляхах збяру,
Сем розных страў
З гаючых траў звару.
Усё шчэ будзе
На маім вяку.
Патрэбна —
Сэрца сцісну ў кулаку.
А верш складу я.
Толькі перш-наперш
Павер ты мне,
Што будзе гэты верш.





Дрэвамі вобразы
Злева і справа.
Прагна аловак
Шукае рука.
Зноў мяне вабіць
Адвечная справа:
Слова — да слова,
Радок — да радка.

Кожны радок,
Як дзіцятка, гадую.
З ім сваю радасць дзялю
І бяду.
Нат запаветнага
Я не шкадую.
Нат з патаемным —
На людзі іду.

Ссохлую глебу
Напоіць залева.
Ды не змялее
Пачуццяў рака!
...Дрэвамі вобразы
Справа і злева:
Слова — да слова,
Радок — да радка.

## *Сенакосная пара*



Улетку сонца раненька ўзыходзіць.
Улетку дома некалі сядзець.
І нават стогадовы дзед выходзіць
Папрацаваць і ветла паглядзець.
Яшчэ на травах не абсохлі росы,
Шчэ птушачка не чысціла пяра,
А ўжо звіняць-гамоняць сенакосы —
На тое сенакосная пара.

Кладуцца канюшына і асока,
Кладуцца купна, роўненька, як след.
Апоўдні, калі сонейка высока,
Ідуць касцы пад дрэвы на абед.
Глядзі, якія бронзавыя плечы.
А хлопец не на поўдні загараў —
Касіў у вёсцы. ...Ахінае вечар.
Над вёскай змрок. І пах прывялых траў.

А хлопец просіць: «Маці не пачуе,
Выходзь, яна варочаецца ў сне...
Выходзь, хто ў хаце ў ліпені начуе?!
Хто любіць — гэткай ноччу не засне...»
Бяжыць на золку след дзявочы босы
Ад рэчкі да бацькоўскага двара.
Зацерушыла сенам дзеўцы косы —
На тое сенакосная пара.

# *Раўнадзенства*



У спаднічцы саржавай
Маленства,
Прамільгнуўшы,
Знікла за сасной.
Ёсць пара такая —
Раўнадзенства
Восенню
І ранняю вясной.

Мудрая прырода
Вырашае,
Што цяпер патрэбней,
Ноч ці дзень.
Два разы за год
Кладзе на шалі
Цемру і святло,
Прамень і цень.

Я сягоння
Кінула на шалі
Тое ўсё,
З чым па жыцці іду:
Страты і здабыткі,
Кроплі жалю,
Хвілі шчасця,
Радасць і бяду.

Без ваганняў кінула,
Без страху,
Ведаючы,
Тое, што было,
Дадзена душы,
Як крылы птаху:
Чорнае
І белае крыло.

Назіраю
Раўнадзенства ў лёсе.
Толькі вось не ведаю
Сама:
Мне пад сорак.
Можа, гэта восень
Альбо проста
Позняя вясна...

## *Узлётная паласа*



На лавачцы
Вохкаюць гучна суседкі,
З галін
Атрасаецца долу раса,
Дрыжаць ліхаманкава
Травы і кветкі:
Блізка —
Узлётная паласа.

Суседскі Джульбарс
Захлынаецца брэхам,
Пясчаная
Абуджана рана каса
Сталёвых матораў
Раскацістых рэхам:
Блізка —
Узлётная паласа.

Зрывае з плячэй маіх
Плашчык кароткі,
Няможна суняць
Трапятанне крыса.
Скачок у прадонне —
Жахліва-салодкі.
Блізка —
Узлётная паласа.

Я ведаю,
Верне душэўныя сілы
Мне роднага краю
Зямная краса.
Пара выпрамляць
Натамлёныя крылы, —
Блізка
Узлётная паласа.

* * *



*Ніне Мацяш,*
*прачытаўшы «Паэму жніва»*

Над палеткам даспелым
Займаецца жніўнае ранне,
І абапал дарогі —
Каласістае жыта сцяной.
Мы ў палоне прызвання,
Нас аднойчы знаходзіць прызнанне,
Ды яно нам даецца
Дарагою занадта цаной.

Быццам вочы твае,
Васількі на шырокім узмежку.
Беларускае поле,—
Яно наша песня і лёс.
Вельмі добра, калі
Твой радок абуджае усмешку.
Удвая даражэй,
Калі дорыць узвышанасць слёз.

Чалавечыя душы,
Нібы лебядзіныя шыі,
Што бялеюць у змроку
Скрозь голле азёрнай лазы.
Вабіць іх вышыня.
Тыя душы табе не чужыя,

Калі з словам тваім
Ачышчальнай глынулі слязы.

Дарагая мая,
Мы надзеі губляць не павінны.
Нам стаяць да канца
І свае вышыні не здаваць.
Нам смяяцца і плакаць
І да самай апошняй хвіліны
Па крывінцы, па слёзцы, па ўздыху
Сябе аддаваць.

## *Сасна*



Насенне вецер з хвой абтрос,
Раскідаў па-над стромай.
Зямля насенне прыняла
Пад дожджык, пад расу.
І вось узняўся юны бор
Градой тугой і стромкай.
Была там кожная сасна
Красуняю з красунь.

Ды лёсу зорачка свая
Над кожнаю сасною.
З'явіўся чалавек — і ссек,
Абцерабіў сукі.
І хутка дрэва можа стаць
Калыскай, ці труною,
Ці тапарышчам, ці хлявом,
Ці возам дроў сухіх.

Таму і кожная сасна
Жыла сваёю верай:
Адна хацела стаць вяслом,
Каб хвалі рассякаць.
Другая — звонкасцю цымбалаў,
Трэцяя — паперай,
Каб праз вякі яе змаглі
Нашчадкі прачытаць.

І толькі гэтая сасна
Не гонарам, а карай
Лічыла тое, што радзеў
Яе айчынны бор.
І толькі гэтая сасна
Жыла асобнай марай:
Каб абышла яе піла,
Не закрануў тапор.

Каб сонца лашчыла яе
Бурштынавае цела,
І косы смольныя яе
Шапталіся з вясной.
І нават мачтай карабля
Яна быць не хацела.
Яна хацела быць сасной.
Заўжды
Жывой сасной.

* * *



І кожны дзень
Зямля здаецца новай,
І сілы
Невычэрпныя ў зямлі.
Над канюшынай,
Белай і ружовай,
Шчыруюць
Залацістыя чмялі.

Раскіну рукі
Смуглыя ў знямозе —
Звініць у сэрцы
Дрогкаю струной
Удзячнасць
Гэтай палявой дарозе,
Удзячнасць
Гэтай радасці зямной.

Чацвёрты
Размяняны мной дзесятак,
І часта роздум
Хмурыць мне брыво:
Такі бясхмарны быў
Жніва пачатак,
Ці ўдала
Будзе скончана жніво?

Мой першы сноп
Вясёлы быў, хоць тонкі.
Яго трымала
Радасна ў руках:
У перавясле —
Белыя рамонкі,
Блакітныя валошкі —
Па баках.

З-пад нізкай хмары
Важкія дажджынкі
Яшчэ астудзяць мне
Гарачы лоб.
Пара прыспее
Святкаваць дажынкі.
...Які ён будзе,
Мой апошні сноп?

* * *



Як надзея мая заначуе,
Ці абудзіцца, светлая, зноў?
Побач сябра, ды ён і не чуе
Тую дзіўную песню без слоў.

Тую песню спрадвечную поля —
З ёю жнеі нябачныя жнуць.
Мірыяды пушынак з таполяў
У празрыстым паветры плывуць.

І разносяць яны над сусветам
Гэты спеў, як сярэбраны звон,
Як апошняе бабіна лета —
Бабін лёс,
бабін сум,
бабін сон...

* * *



Садзіцца сонца,
Хмельна пахне сена.
На ставах
Адвячоркавы туман.
Напаўзабыты
Голас Джо Дасэна
Данёс у вёску
Рупны «Акіян».

Дрыжыць расінка,
Як сляза на вейках,
Пад гэты спеў
Кахання і надзей...
І дзіўна слухаць
Голас чалавека,
Якога больш няма
Сярод людзей.

Спявак памёр,
А спеў яго лунае.
Да сэрцаў
Гукі чуйныя плывуць.
Нікога з смертных
Смерць не абмінае.
— Хай нашы песні
Нас перажывуць.

* * *



*Сяргею Грахоўскаму*

Здаецца, што стракаты сцяг
Узняты.
Дажджынкі, як слязінкі,
На лістах.
Калі спрабуюць крылы
Птушаняты,
У небе з імі
Мудры дужы птах.

Ён у паветры восеньскім
Хмялее,
Крыху зайздросціць
Юным галасам.
Ягоны лёс —
Вучыць таму, што ўмее,
Тлумачыць тое,
Што спасцігнуў сам.

Вясна дае жыццё
Ў калысках сосен,
А лета — спеў
З удзячнасцю цяплу.
Ды ўрэшце толькі восень,
Толькі восень
Дае размах
І ўпэўненасць крылу.

# *Крылатая восень*



I

Я прасіла ў лёсу крылы,—
Неразумнае дзіця:
Гэта ж колькі трэба сілы
Для крылатага жыцця.

Гэта ж колькі трэба веры
У прастору і крыло,
Каб жаданні і намеры —
Усё узвышаным было.

...З арабін на бераг стылы
Лістапад шпурляе медзь.
Даў мне лёс цяжкія крылы,
А ці здолею ляцець?

II

Адзіна спевам
Плакаць і смяяцца,
То праклінаць сусвет,
То абдымаць.
Цяжкія крылы
Буры не баяцца.
Цяжкія крылы
Цяжка уздымаць.

Як боль, любоў
Да сонечнага бору.
Як боль, любоў
Да парнае раллі.
...Цяжкія крылы
Клічуць у прастору.
Цяжкія крылы
Цягнуць да зямлі.

III

Прыкметна схуднеў каляндар.
Рабіны пад золкім інеем.
Да шыбы сцюдзёна-сіняе
Схіляю гарачы твар.

У днях маіх і начах
Адвечныя супярэчнасці.
Галінкай на Дрэве Вечнасці
Бялееацца Млечны Шлях.

Нябачныя крылы шумяць:
Злятаюцца птушкі смелыя
Зорачкі пераспелыя
У гронках сузор'яў кляваць.

* * *



Не наяўнасць
Геніяльных рыс
І не лёс,
Наканаваны зверху.
Слабасць
Цягне галавою ўніз
З вышыні
Чацвёртага паверху.

Празвінець
Напятаю струной
І — закрэсліць
Раптам і адразу
Кожную
Ухмылку за спіной,
Кожную
Нябачную абразу.

І калі б
Пайшла я без пары,
І калі б
Заўчасна пахавалі,
Пэўна б,
Запісаліся ў сябры
Тыя, што й рукі
Не падавалі.

Ды не скончан
Шлях мой на зямлі.
Над вадой
Салоўка не змаўкае,
І яму няведама,
Калі
Абарвецца
Нота трапяткая.

Перамогшы
Слабасці спакус,
Буду жыць
Учэпіста, упарта.
Нездарма
Прапрадзед-беларус
З вiламі
Ішоў на Банапарта.

Буду жыць
І буду працаваць.
Буду гадаваць
Малую дочку.
І жыццё
Штодзённа аддаваць
Па нервовай клетцы,
Па радочку.

Ну, а смерць —
Хай здарыцца яна
У гарэнні,
Клопатах, рабоце,
І парвецца сэрца,
Як струна,
На амаль неверагоднай
Ноце.

# *Карыда*



Фіеста, яркая пязменна,—
Сплаў смеху, музыкі і слёз.
Вакол — трыбуны. Тут — арэна,
На ёй сам-насам я і лёс.
Наўмысна з лёсам я дражнюся,
Бо жыць іначай не магу.
Не, я так лёгка не здаюся,
Каб быць распятай на рагу.
Мільёны гледачоў і сведак,
Але ці дапаможа хто?..
Дражню мяшчаначак-суседак
Сваім чырвоным паліто.
Дражню хадою маладою
І смелым позіркам у твар.
Тым, што смяюся над бядою
І не зракуся вышніх мар.
Няма ні «ўчора» і ні «заўтра»,
Не існуе вакол людзей,
Калі ад пачуцця азарту
Імкнецца сэрца прэч з грудзей.
Няма нічога, толькі крыўда
На доўгі, доўгі калідор...
Маё жыццё — мая карыда,
Дзе я — нястомны матадор.

* * *



Спавіты лес світальнаю смугою
І вабіць свежым водарам грыбоў...
Аплочаны цаною дарагою
І дружба, і кароткая любоў.

Мо тым, хто жыў без страху і папроку,
Даўгі бяссмерцем доля аддае...
З маленства, з чуйнай памяці, здалёку
Гарачай хваляй жыта абдае.

Ніхто наперад лёс не разгадае,
Дзе горкія, дзе радасныя дні...
...Я — шчэ малая, мама — маладая,
У поле едзем з бацькам на кані.

Выбоіны памалу аб'язджаем.
І мне яшчэ няўцям, чаму здалёк
Услед з такой пяшчотаю і жалем
Глядзіць блакітным вочкам васілёк.

Эх, маладосць, не радуе абнова,
Калі купіў уцэнены тавар.
Як не хапала бацькавага слова
І позірку з-за шкельцаў акуляр.

Заўчасная не апраўдае страта
Памылак безліч на маіх шляхах,

Перад людзьмі і светам вінавата
Ледзь не ва ўсіх смяротных я грахах.

Па тых, хто здрадзіў дружбе, не заплачу.
Хто разлюбіў, таго не папракну.
...Удзячная жыццю, штовечар бачу,
Як зорка шле святло майму акну.

* * *



На бяссонную гэту планету
Я вярнуся праз тысячу год:
Вось і дом на краёчку сусвету,
Вось і клён ля драўляных варот...

Нечакана гасцінец арбітны
На хвіліну сюды завіне.
Я ступлю на парог незабытны,
І ніхто не пазнае мяне.

Зразумею, што тут, як калісьці —
І турботы, і крыўды, і смех.
А увосень — барвовае лісце.
А узімку — задумлівы снег.

Праклінаючы свет адмысловы,
Да якога патрэбна ляцець,
Буду слухаць забытыя словы
І ў забытыя твары глядзець.

І адвёўшы рукой аблачынку,
У пяшчоце, надзеі, журбе
Пагляджу на малую дзяўчынку
І скрозь слёзы пазнаю сябе...

* * *



Бярозак охрай,
Чырванню асін
Мастачка-восень
Дол пафарбавала.
Жыццё мяне
Не песціла зусім:
Шмат абяцала,
Мала што давала.

Яшчэ жыццёвай сцежцы
Не канец,
Хоць за плячыма
Добрая палова.
Спрадвеку так —
Без вопраткі кравец
І без рагоў
Бадлівая карова.

І ўсё-ткі аптымізм,
А не ныццё
Лічу свайго характару
Адзнакай.
Няхай зусім
Не песціла жыццё,
Не крыўдаю трымаюся —
Падзякай.

## *Сінусоіда*



Вунь галубы,
Любімцы горада,
Радком паселі
На карніз.
Жыццёвы шлях мой —
Сінусоіда:
Уверх — уніз,
Уверх — уніз.

Так прадчуванне ёсць
Адчайнае,
Што нешта здарыцца
Вось-вось,
І — стрэне ўдача
Надзвычайная,
Як на лясной сцяжынцы
Лось.

І дзень той —
Свята урачыстае.
Другі, здаецца,
Весялей,
Ды ён, што дно,
Як быццам чыстае,
А стань —
І вязнуць ногі ў глей.

То крыўдзіць лёс мяне,
То радуе.
Душа, не скардзіся,
Цішэй,
Бо чым ніжэй
Крывая падае,
Тым уздымаецца
Вышэй.

* * *



Пад намі — планета Зямля,
А над намі
Празрыстая восень
Трапеча крылом.
Не тая, што плача
Касымі дажджамі,
А тая, што ззяе
Янтарным святлом.

І пляж, і жніво
Засталіся адзаду,
І ягадай птушак
Не вабяць кусты.
Наш сад урачысты —
Даносіцца з саду
Паспелай антонаўкі
Водар густы.

І радасць прыходзіць
Зусім нечакана,
Вітае здалёк
Ледзь прыкметным кіўком,—
Не тая, што хмельным
Цвіце дурнап'янам,
А тая, што свеціць
Апошнім лістком.

# Сяброўкам дзяцінства



Усё мілей мне
Памяццю вяртацца
Да вас,
Незамутнёныя гады.
...Было Анэлі з Ядзяй
Па дванаццаць
І мне ішоў
Дванаццаты тады.

Смяюцца звонка
Ядзя і Анэля,
І я смяюся
(Гэтакі ж узрост) —
Цыбатая,
З падрапаным партфелем,
У пінжачку,
Пашытым навырост.

Асінкі,
Вербы гнуткія ды вольхі.
Да школы шлях
Вядзе цераз раку.
Рака — ручай,
Далёка ёй да Волгі,
Але ідзём
Па кладцы за руку.

Сям'ёй дубы
Старыя падняліся.
Тут у траве
Жаўцеюць жалуды.
Тут з Ядзяй і Анэляй
Мы кляліся,
Што наша дружба —
Вечна, назаўжды.

...Мінуліся гады.
Мы пастарэлі.
Жыццёвыя шляхі
Нас развялі.
Як склаўся лёс
У Ядзі, у Анэлі?
Даведацца б...
Ды ўсё няма калі.

То дапазна працуеш,
То гатуеш.
З дачкой урокі робіш
(Першы ж клас).
То нейкі важны
Юбілей святкуеш,
Прасілі быць.
...Бяжыць няўмольны час.

Няўжо зямля
Не захавала следу,
Няўжо травою
Сцежкі зараслі?
Вось, думаю,
Збяруся — і пад'еду.
Хоць на дзянёк.
Але ж... няма калі.

Мінецца тыдзень.
Выдасца нядзеля,
Калі пашчасціць,
Вырвешся ў кіно.
...Не ведаю,
Дзе Ядзя, дзе Анэля.
А рэчка...
Пэўна, высахла даўно.

* * *



Ты прапануеш мне
Сваю руку.
Ты кажаш:
— Мы павінны стаць
Сябрамі.
Ды хоць абое
Служым мы радку,
Сцяна неразумення
Паміж намі.

Ты пакідаеш з лёгкасцю
Парог
Любы,
Твая стыхія — кіламетры.
Начынены ты шчыльна,
Як пірог,
Ідэямі,
Што носяцца ў паветры:

У рытме «рок»
За часам паспяваць,
Цынічным быць,
Абы не быць наіўным.
А мне б —
Душой і думкай выспяваць,
Як зернем колас
На палетку жніўным.

Усходзіць,
Каласіцца, даспяваць
І кланяцца
Сваёй зямельцы ў пояс,
І песню ёй удзячную
Спяваць.
Не новую.
Але ж на поўны голас!

# *Навальнічнай парою*



Уздрыгваюць
Крылы трывожныя броў,
Адчуўшы
Грымоты далёкія,
Калі з небыцця
Галасамі сяброў
Нястомная вечнасць
Галёкае.

Пахмурнае ранне,
Набыта слязьмі,
Запозненым дожджыкам
Пырскае...
Заўчасна пайшлі вы,
Каго ні вазьмі,
Сябры мае
Самыя блізкія.

І з кожнай
Малой ці вялікай віной,
Памылкай маёй
Ці няўдачаю,
Здаецца мне,
Вы — за маёю спіной,
Як суддзі,
Як сведкі нябачныя.

...У лівень-патоп,
Хоць наладжвай каўчэг,
Той дождж ператворыцца
Ранкавы.
І мне пазнаваць
То раскацісты смех,
То позірк
Імгненна-маланкавы.

Б'юць хвалі,
Як лбы звар'яцелых зуброў,
У бераг
Пад вербамі ніцымі,—
Вяртаюцца душы
Памёршых сяброў
З ліпнёвымі
Навальніцамі.

* * *



*Памяці Андрэя Макаёнка*

Ціхім жарам позніх журавін
Адгарэлі купіны ў балоце.
Недзе ля Журавіч у самоце
Ліст апошні падае з галін.

Адквітнеў юнацтва белы сад,
Маладосці яблык пракаціўся.
З лістападам ты на свет з'явіўся,
І пайшоў навечна ў лістапад.

Міма, не крануўшы твой спакой,
Пройдуць навальніцы і навіны.
Цяжкая, бы века дамавіны,
Хмара навісае над ракой.

І бягуць па кладцы хлапчукі,
— Гэй, Андрэй! — равесніка гукаюць.
...Жураўлі за хмарай узнікаюць,
Быццам несмяротныя радкі.

* * *



Мой позірк — смелы,
Поціск рук — бадзёры
І злом брыва,
Як хваля на Сажы.
Павінны усміхацца
Каскадзёры,
Хоць і займае дух
На віражы.

А мы,
Ці ж мы не ўмеем усміхацца
Над віражамі
Лёсу і шашы...
Душа не навучылася
Баяцца,
Стамляцца
Не дазволена душы.

Зноў спадарожнік
Мчыць, як ашалелы.
Нястомна робіць
За вітком віток.
...Мая душа,
Мой лебедзь чорна-белы,
Няспынны рух
Жыцця твайго выток.

Гэй, фуэтэ,
Адзілія-Адэта!
Свет навакольны
Кружыцца, бы ў сне...
Хай павуцінка
Бабінага лета
Па-здрадніцку
На скроні прамільгне.

Юнацтва рэхам,
Водгаласам балю,
Журбой па тых,
Каго мне нестае.
...Ды будзь мне, восень,
Не парою жалю —
Парой вяртання
На кругі свае.

* * *



Згарыць са мною,
Потым уваскрэсне,
Успыхне зорка,
Покуль нічыя.
...Яшчэ гучаць
Мае жывыя песні
У жаўруковым звоне
Ручая.

Але замрэ
Мой голас чалавечы,
Патухне зрок,
Пахаладзее скронь.
І любы
Не кране мяне за плечы,
І сябра
Не пацісне мне далонь.

З усім і ўсімі
Здольнай прымірыцца
У гэты міг.
Яго прадбачу я.
Мне — растварыцца.
Песням — паўтарыцца
У жаўруковым звоне ручая.

* * *



Жаўруком налонным
У далонь
Будзе біцца сэрца
Звар'яцелае.
Неспадзеўкі
Ляжа пасма белая
Яблыневай квеценню
На скронь.

Нездарма
Пытаюся ў раллі,
Колькі вёснаў лёсам мне
Адлічана,
Каб аддаць усё,
Што запазычана
У людзей,
У неба і зямлі.

Басанож
Ступаю па раллі.
На душы —
Святло прадоння зорнага.
Вышыня —
Ад неба бездакорнага.
Дабрыня —
Ад грэшнае зямлі.

* * *



Спеў даўніны,
Мелодыя «Лучыны»,
Даўно не ты
Маёй краіны твар.
Ды ёсць неразгаданы
Сум Айчыны
У ланцужку
Яе асенніх хмар.

Нібыта дзверы
З грукатам зачыніць
Далёкі гром...
— Ды ён злуе дарма.
Пральецца дождж,
І ззяюць далячыні,
І ні канца
Ні краю ім няма.

Сябры мае,
Даруйце мне за тое,
Што ні сябе,
Ні вас не берагла.
Але ж у сэрцы
Самае святое
На ўсё жыццё
Я захаваць змагла.

У ім — навечна
Чыстыя крыніцы,
Агонь рабін,
І стылая ралля,
І каласок
Нязжатае пшаніцы,
І развітальны
Вокліч жураўля.

Магчыма, лёс мой
Варты наракання,
І я не ўмела
Над радком карпець.
...Пад зоркаю
Апошняга змяркання
Мне будзе што
Аплакаць і апець.

## *Лёшкаў гармонік*



Лісцвяны пажар
У садах дагарае.
Рудзейшаю робіцца
Охра травы.
...На лавачцы Лёшка
«Цыганачку» грае,
І Лёшкаў гармонік
Пяе, як жывы.

Гавораць, не здатны
Хлапец да навукі.
Зусім адбіваецца,
Кажуць, ад рук.
...Лятаюць па кнопачках
Лёгкія рукі,
Гармонік у Лёшкі —
Надзейны сябрук.

То звонка смяецца,
То глуха рыдае
Гармонік. Ім добра
З музыкам удвох.
...А маці ж у Лёшкі
Яшчэ маладая.
А бацька ж у Лёшкі...
Судзі яго бог!

Ніхто пад гармонік
Шчымлівы не скача.
Сусед падбадзёрыць:
«Грай, грай, малайцом!»
...Сынок паіграе,
А маці паплача,
Ды толькі не так,
Як тады, пад вянцом.

Паплача, схаваўшыся
Ў цесныя сенцы,
Каб вочы чужыя
Не бачылі слёз.
...Іграе гармонік,
І з ветрам нясецца,
Ды кружыцца лісце
З пажоўклых бяроз.

* * *



*Ігару Лучанку*

Лагодзіць слых сялянская гаворка,
Вяртаецца з напевам даўніна,
І Мар'інай завецца ваша Горка,
Хоць Мар'і той на свеце ўжо няма.

О не, не замуціліся вытокі,
І з-пад карэння б'е святло крыніц.
Пульсуюць зноў абуджаныя сокі
У голлі, што схіляюць вербы ніц.

Век прасніцы, век сошкі і лучыны
Мінуўся, ды як чысты ручаёк,
У мора гукаў сонечнай Айчыны
Лірычнай нотай льецца Лучанок.

Я пад яе ўсміхнуся, і заплачу,
І трапяткія вершы напішу.
...Няхай сабе я ў вочы вас не бачу,
Я чую вашу спеўную душу.

* * *



Усходзіў дым слупочкам
Увечары над хатай.
Сцвярджаючы бяссрэчнасць
Прабабчыных прыкмет,
Павіс сягоння рана
Над берагам гарбатым
Агністы яблык сонца,
Агромністы ранет.

Глядзяць замілавана
На яблык той вялізны
Драўляныя вароты,
Акно і клён стары.
Пяшчотныя званочкі
Памытае бялізны
Пра нешта ціха звоняць
З вяровак у двары.

Яшчэ ўладарыць восень,
А ўжо зімою пахне.
Прачнецца заўтра дочка,
Маленькі чалавек,
Прыцісненца да шыбы
І ў захапленні ахне —
Пушысты, быццам зайчык,
Уночы выпаў снег.

* * *



Я іх чакала розумам і сэрцам.
На стылыя пустыя берагі,
На чэзлае прамерзлае азерца
Няхай кладуцца белыя снягі.

На сум маіх світанняў і змярканняў,
На след таго, хто быў мне дарагі,
На горасць страт, на боль расчараванняў
Няхай кладуцца белыя снягі.

Каб кожнаму, на колах ён ці пешшу,
Пад ногі пухам слаўся шлях даўгі.
Як абяцанне новых чыстых вершаў
Няхай кладуцца белыя снягі...

# *Галалёдзіца*



Там зорка патухне.
Там зорка народзіцца.
І зоркі, як людзі:
Была — і няма.
Пятнаццаты дзень
На дварэ галалёдзіца,
Два тыдні сваволіць
Гарэза-зіма.

Цяпер пешаходам
Нялёгка даводзіцца.
Шафёры стаміліся
Трасу клясці.
...Бывае, і ў лёсе пара —
Галалёдзіца.
І боязна ўпасці.
І трэба ісці.

# *Гары, мая зорка...*



І стан быў крамяным,
І позірк быў смелым,
Крынічкай звінела гаворка.
Над цёмнай вадою,
Над берагам белым
Гары — не згарай, мая зорка.

Да скону жанчыне
Не быць маладою.
Яно й справядліва, а горка.
Над берагам белым,
Над цёмнай вадою
Гары — не згарай,
Мая зорка.

Гары праз гады
Над дачушкаю мілай.
Над маміным ціхім надворкам,
Над Сожам,
Над бацькі
Маўклівай магілай
Гары — не згарай, мая зорка.

# Прадчуванне свята



Цень ёлкі зялёнай
На белай сцяне,
Смалою
Прапахла хата.
У позірку кожным,
У кожным акне
Лаўлю
Прадчуванне свята.

Калі ты маю
Затрымаеш далонь
Ды глянеш
Ніякавата,
На сэрцы — трывожнасць,
На шчоках — агонь,
Я ўся —
Прадчуванне свята.

Хай мара з рэальнасцю
Не спарышы,
Усё-ткі
Жыву крылата.
А крылы —
Той стан чалавечай душы,
Які —
Прадчуванне свята.

* * *



Бязмоўная ноч
Ахінула бярозкі.
Дарога крамяная
Гнецца дугою.
Мільгаюць агеньчыкі
Далёкае вёскі,
Вяртаюць у даўняе,
У дарагое...

Вясёла трашчаць
Смаляныя лучынкі.
За вокнамі сцюжа,—
Цяпельца дарэчы.
Сівая бабулька
З малою дзяўчынкай
Галовы над казкай
Схіляюць на печы...

Дзе ж тая бабулька?
Бабулька прыстала,
Пад крыжам драўляным
Стамлёна заснула.
Дзе ж тая дзяўчынка?
Дарослаю стала.
Каханне сустрэла
І гора хлябнула.

Забыліся казкі,
Абстрыгліся коскі,
І позірк напоўніўся
Суму смугою.
...Мільгаюць агеньчыкі
Далёкае вёскі,
Вяртаюць у даўняе,
У дарагое.

* * *



Вабіць, кліча
Далячынь-дарога,
Высякае іскры,
Як красала.
Зноў трывогі на душы
Замнога.
Зноў спакою на душы
Замала.

І нясуць мяне
Удзень і ўночы
Ногі, колы,
Хвалі, рэйкі, крылы.
Перарвецца
Гэты рух аднойчы,
І — не вернеш
Страчаныя сілы.

На мяжы
Апошняе дарогі
Азірнуся,
Узмахну рукою
І — пайду
Ад вечнае трывогі
Пад крыло
Да вечнага спакою.

# *Роздум на зімовай дарозе*



Ногі самі, здаецца,
Ідуць
Па зімовым шляху
Адмысловым.
Думкі, думкі,
Як пчолы, гудуць,
І не кожную
Выкажаш словам.

Думка —
Упарты, нястомны хадок,
Што вякамі па свеце
Блукае.
Тая —
Лёгка кладзецца ў радок.
Тая —
Жыць між радкоў прывыкае.

Б'ецца птушкаю
Цень ад крыса.
На душы —
Снегавейна і зорна.
І,
Як некалі класік пісаў,
Словам — цесна,
А думкам — прасторна.

# *Ода пятаму пакою*



Парадуюся
Яснаму спакою.
Паслухаю
На ўзлеску цішыню.
І зноў «Дзень добры!»
Пятаму пакою.
У пятым
Я жыву не ўпершыню.

Малы пакойчык
На другім паверсе,
Памерам ён не больш
Як тры на тры.
Адчыніш фортку —
Унізе снег,
А ўверсе
Шумяць вяршыні і гудуць вятры.

Уночы вокны свецяцца,
Як соты,
І нам у іх, як пчолкам,
Шчыраваць.
І той радок,
Дзесяты альбо соты,
На зрок і слых
Да рання правяраць.

Убачыць
Дня жывое нараджэнне,
Калі залоціць
Сонечны прамень
«Приют спокойствия, трудов
И вдохновенья...»,
Абноўленым сустрэць
Той новы дзень.

...Пад Коласавай
Ветлаю страхою
У знак натхнёнай
Снежаньскай пары
Складаю оду
Пятаму пакою —
Пакойчыку
Памерам тры на тры.

# *Дом творчасці*



Тут дыхаецца лёгка, моцна спіцца
І думаецца добра, як нідзе.
У соснах дзесь нябачная сініца
Свой спеў немудрагелісты вядзе.

Маленькія, крылатыя стварэнні...
— Без іх было б бязрадасна ў бары.
У прыцемках замшэлыя карэнні,
Як дзіўныя нязнаныя звяры.

З акна на сцежку водбліск лёг барвовы.
Павесялеў зялёны мой дамок:
У грубцы ясна запалалі дровы,
Паплыў да неба хмаркаю дымок.

А заўтра зноў нябачная сініца
Абудзіць спевам снежныя грудкі...
— Тут дыхаецца лёгка, добра спіцца
І ўсё навокал просіцца ў радкі.

# *Касцёр*



У лагчынку, што ля дому,
Нацягалі хмызняку.
Мы не секлі па жывому,
Нам хапіла сушняку.

Ачышчэння міг кароткі,
Міг маўклівага дабра.
Пэўна, так маўчалі продкі
Ля ахвярнага кастра.

Мабыць, гэткім быў у марах
Падарожніка ачаг.
...Водбліск полымя на тварах,
Водбліск полымя ў вачах.

Я гляджу з вясёлым жахам,
Як, апёкшы мне далонь,
Адлятае ў неба птахам
Непрыручаны агонь.

## *Шаша*



Трашчала голле абгарэлае,
Раўлі сталёвыя зубры,—
Вялі шашу на Негарэлае.
Стагнаў паціху бор стары,

Мяняючы аблічча звычнае.
Свае умовы ставіць час:
Праменіць сонца электрычнае,
Блішчыць бетонка, як алмаз.

І ўсё бліжэй начамі млоснымі
Дыханне тлумнае шашы.
І ўсё цяжэй знайсці пад соснамі
Прытулак стомленай душы.

# *Пейзаж*



Там, пад мостам вецер вольны
Дзьме ў трубу, як у свісток,
І гудзе высакавольтны
У жалезных жылах ток.

Маладзік струменіць яснасць
На дарогу і сасну.
Энергічная сучаснасць
Пацясняе даўніну.

Ад шашы паводдаль — вёскі.
Пералескаў вернісаж.
Поле, ёлкі ды бярозкі —
Пракавечны наш пейзаж.

Ды няпісаным законам
Адчувальных перамен
Ў яркай шапачцы з пампонам
Ўздоўж шашы бяжыць спартсмен.

# *Гадзіннік*



На стале маім пісьмовым
Гучна цікае гадзіннік.
Цікаў ён не гэтак хутка
Ў нашы юныя гады...
Разабрацца, дык навошта
Тут, у лесе, мне будзільнік,
Каб за сотню кіламетраў
Везці мне яго сюды?

Я жыву ў абдымках бору.
Мне няма куды спяшацца.
Ды званок вінтом бліскучым
Я накручваю знарок:
Зазвініць — здаецца, чую
Брэх суседскага Джульбарса,
Крокі маміны на кухні
І дачушчын галасок.

Гучна цікае будзільнік,
Час адлічвае нястомна.
Усяму свой час бывае —
І каханню, і бядзе.
Прыйдзе час — мяне не стане.
Стрэлкі спыняцца раптоўна...
А пакуль — ідзе гадзіннік.
Час ідзе. Жыццё — ідзе.

# Белыя ночы



Уяўляла ў дзяцінстве не раз
Востры шпіль, і Зімовы палац,
І славутыя белыя ночы,
Хоць дагэтуль не бачыла ў вочы.

Тут, пад Мінскам, у зімнім бары
Па начах да світальнай пары
Я без лямпы пішу і чытаю —
Кнігу памяці вечнай гартаю.

...Што бальней апякае далонь —
Вынішчальны хатынскі агонь
Ці мароз ленінградскай блакады
Не прыдуманай жорсткасцю праўды?

Сон і сёння не йдзе да мяне...
Белы месяц на белай сасне.
Свецяць проста ў душу, а не ў вочы
Беларускія белыя ночы...

# Сініца



Яна скакала па суках,
Жучкоў шукала пад карою.
І вось — амаль што не ў руках
Зімовай позняю парою.

Як залящела — на святло,
Прывабіў пах жытла і хлеба
Або паклікала цяпло
Ад сцюж захмаранага неба?..

Маленькі спуджаны камяк
Лятаў і біўся аб шпалеры,
Ён не хацеў кляваць ніяк
Ні круп, ні сала па паперы.

Маленькі спуджаны камяк
Не дакранаўся да вячэры.
Крычалі хлопчыку: — Дзівак! —
А ён трымаў наросхрыст дзверы.

І птушка ледзь не ў твар яму
Стралой мільгнула да ўваходу...
Бо і на сытую турму
Мяняць не трэба ёй свабоду.

# Развітальнае



Неаднойчы ад'язджала...
Ці пабачымся ізноў,
Благаслаўлёная дзяржава
Соснаў, птушак і радкоў.
Гэты дом двухпавярховы
Успамінам дарагі.
...Кажуць, дзесь будуюць новы
Дом пісьменнікаў другі.
Кафляй выкладзены душы,
Тэлефонаў чарада.
Ды не душы гояць душы,
А крынічная вада.
Ад яе мацнейшы голас
І цвярдзейшая рука.
...Пратаптаў сцяжынку Колас
Да ляснога раўчука.
Пазаві — і адгукнецца
Рэха даўняе вясны...
Пойдзем мы — што застанецца?
Застанецца кут лясны.
Дух смаляны, дух шыкоўны,
Пах ядлоўцу, трэск сукоў.
І драўляныя шпакоўні
Домам творчасці шпакоў.

# *Наследаванне ўсходняму*



I

Прыснілася сягоння, што кахаю,
Кахаю гэтак, ажно ные сэрца,
Слязьмі яно і песнямі зыходзіць:
І соладка, і боязна яму.
Прачнулася. Аднак вакол пустэча.
Няма таго, каго шукаюць вочы
І прагне сэрца гэтак апантана.
Навошта прачыналася тады!

II

О, гора мне, ты завалодаў мною
Душой і целам, яваю і снамі,
Надзеямі і марамі маімі —
Цяпер адзіны ты мой уладар.
Усё табе — і дзень мой, і змярканне,
І міг, калі ўзыходзячае сонца
Кідае промень, водбліск свой чырвоны
На шыбы і на грудкі снегіроў.
Усё табе — зімовая дарога,
Рыпенне стромкіх соснаў карабельных,
І зорак таямнічае мігценне,
І дзіўны ветру спеў — усё табе.
Адзіны ты ўладарыш безраздзельна

Надзеямі і марамі маімі,
Душой і целам,яваю і снамі.
...О, гора мне, а дзе ж цябе шукаць!

III

Нялёгкі лёс жанчыны закаханай:
Здавацца гордай і недатыкальнай,
Задумнай, запаволенай у рухах,
Халоднай, як зімовая рака.
Хаваць старанна сэрца трапятанне,
Усе свае таемныя жаданні,
І кожны міг, і кожную хвіліну
Агонь вачэй павекамі тушыць.
Ды толькі ён прасвечвае скрозь векі,
Агонь пякельны, што ў грудзях палае,
Усю істоту напаўняе спёкай
І пагражае сэрца спапяліць.
Калі яго не выпусціць на волю,
На месцы сэрца прысак застанецца,
Не ўратавацца. Знаюць нават дзеці,
Як небяспечна жартаваць з агнём.

* * *



Злы мароз
Пры сонечнай усмешцы
У зімы
Адна з адметных рыс.
Не шукай слядоў маіх
На сцежцы,
Ты — не паляўнічы,
Я — не рысь.

І пра тое
Чэзлае азерца,
І пра шэпт
Заснежаных лясоў
Памаўчы.
Не хоча слухаць сэрца
Зманлівых тваіх
Прыгожых слоў.

Не бяжы за мной
Па слізкай сцежцы
І радкоў узнёслых
Не пішы.
...Злы мароз
Пры сонечнай усмешцы,
Жар у жылах.
Сцюжа на душы.

* * *



Як хораша ісці шашою белаю.
Мой шлях не дальні да крывых бяроз.
Над кожнаю галінкай заінелаю,
Мастак і майстра, працаваў мароз.

А ноч manісты зорныя развесіла
Над ціхім сумам снежнага радна.
Табе сягоння без мяне не весела,
Але, прабач, хачу пабыць адна.

Шукаю словы важкія, адзіныя,
Няпростыя, як чалавечы лёс.
...Бярозы цягнуць шыі лебядзіныя
Да праяснелых снежаньскіх нябёс.

* * *



На першым снезе
Не схаваць нічога:
Падкажа след
Хто едзе, хто ідзе...
Бяжыць
Лясная белая дарога
І гэтак лёгка,
Хораша вядзе.

Ці не званочкі
Пад дугой вясельнай?
Звініць бярозак
Заінелы рад.
І — быццам не было
Слаты асенняй,
І — быццам не было
Заўчасных страт.

Гуляе ветрык
З хустачкай вясёла,
І растае
Сняжынка на рагу.
І — быццам зноў,
Спазняючыся ў школу,
Праз зімні лес
Дзяўчынкай я бягу...

* * *



Хаваецца сонца.
На дрэў серабро
Кідае апошні
Прамень журавінны.
Хто гэта прыдумаў,
Што нашых сяброў
Мы ўголас, публічна,
Хваліць не павінны.

Хто гэта прыдумаў,
Што дзеляць бяду,
А радасць
З сябрамі дзяліць непрыгожа?..
Як там ні было б,
Я заўсёды іду
Да сябра — з дабром,
Да зласліўца —
Варожа.

Жыццё нас то лашчыць,
То, часам трасе.
Яно — не пейзаж
У залочанай раме.
Удача
Сапраўдную радасць нясе
Тады, калі ты яе дзеліш
З сябрамі.

* * *



Завулак,
Ціхі мой прытулак,
Сюды вяртаюся я
Зноў.
Салодкі пах
Святочных булак
У дыме
З белых каміноў.

Ад рэчкі вее
Ветрык колкі,
А бераг —
Нібы з палатна.
І калярова ззяюць
Ёлкі
Салютам
З кожнага акна.

Той кут,
Дзе памагаюць сцены.
Сякерай гакае
Сусед.
І кожны дах
Тэлеантэнай
Глядзіць напружана
Ў сусвет.

* * *



Няма ніякай навізны,
Сенсацыі няма ніякай —
Жанчына ў німбе сівізны
І з ёй на ланцужку сабака.

Сабака ціхенька вішчыць,
Напэўна, этыцы вучылі.
А ваша сэрца не шчыміць
За тых, каго мы прыручылі?

Паток машын. Паток людзей,
Натоўп цікаўна-раўнадушны.
...Яны гуляюць тут штодзень,
Пакінуўшы пакойчык душны.

Той рух — выратавальны круг
Ад адзіноцтва, ад вар'яцтва.
І звязвае тых двух ланцуг,
Які яны парваць баяцца.

* * *



*Памяці воіна, які загінуў,*
*выконваючы інтэрнацыянальны абавязак,*
*і яго жонцы Зіне прысвячаю*

Як дыхае зямля
Пасля дажджу,
Як на вятрах
Трапечацца асіна!..
На гэты свет
Для шчасця нараджу
Сваё дзіця —
Твайго, любімы, сына.

Твой сын
Упершыню пабачыць снег,
За ім працягне ручку,
Засмяецца.
Няхай у сэрцах
Той дзіцячы смех
Сярэбраным званочкам
Адгукнецца.

Твой сын
Упершыню пачуе спеў,
Што лье жаўрук
З падвоблачнае сіні.
Пабачыцца ты з сынам
Не паспеў.
Любімы мой,
Ты будзеш жыць у сыне!

# *Глыток кахання*



У акіяне
Зманлівых нябёс
Сузор'е Рыбы
На нябачнай вудзе...
Глыток кахання
Падарыў мне лёс,
А ўжо й не спадзявалася,
Што будзе.

Што, як маланкай,
Мне аслепіць зрок.
Як громам перадвосеньскім,
Аглушыць.
...Нас у сусвеце двое.
Зорны змрок
Яднае целы нашыя
І душы.

Каханне,
Пекла нашае і рай.
Ізноў шукаюць прагна
Вуснаў вусны.
Пакуль не заружовіць
Небакрай.
Датуль не разарваць
Палон спакусны.

Разняць абдымкі
Сілы нестае.
Калі маё
Ты выдыхаеш імя,
Істота
Кожнай жылачкай пяе
Пад чуйнымі
Далонямі тваімі.

І ток тваіх
Напаўзакрытых воч
То забірае, то вяртае
Сілы.
Няўжо бясконцай будзе
Гэта ноч...
Дыханне замірае...
Божа...
Мілы!

* * *



На той агонь,
Што апякае грудзі,
І страшна мне,
І соладка ісці.
Ніхто мне не суддзя:
Ні бог, ні людзі.
Такое
Не паўторыцца ў жыцці.

Любоўнай смагі
Наталіць вадою
Няможна,
Нават з зорнага каўша.
Не знае стомы
Цела маладое
І страху
Закаханая душа.

Не думай
Аб хвіліне развітальнай.
Увесь сусвет сягоння —
Для дваіх.
Між зорамі
Вячэрняй і світальнай
Плыве ў нябыт
Кахання вечны міг.

* * *



Закончыцца жыцця кароткі нарыс.
Душа у свет нязнаны адляціць.
І зорка лёсу — дзіўная Антарас
Пад хмаркаю жалобна замігціць.

І будуць дыхаць свежасцю світанні,
Грыбныя ліўні дрэвы абдаваць.
І будуць тыя ж вечныя пытанні
Бацькам цікаўна дзеці задаваць.

І будуць лотаць ціха лашчыць хвалі.
І будзе спеў даносіцца здаля.
...Забудуць тыя, што мяне кахалі.
Успомніць той, каго любіла я.

# *Мяцежная вясна*



*Яўгеніі Янішчыц*

I

Імклівы бег аленя,
Трывожны трэск галля...
Зарою палымнее
Касыначка твая.
Пунсовая касынка,
Як ветразь, над радком.
...Нячынна і гасцінна
Сустрэў мяне твой дом.
Душэўнае адлігі
Нам часам нестае.
Навокал кнігі, кнігі...
А з вокладкі твае
Праз шкло паліцы моднай
На свой кіпучы век
Задумліва-самотным
Паглядам з-пад павек
Глядзіць тваё юнацтва:
Як ясна ты гарыш!
Цудоўнае вар'яцтва,
Добраахвотны крыж.
Штодня душы аповесць
Нясуць табе сябры.

Ідуць сюды на споведзь
І людзі, і звяры.
Забегшы на хвіліну
У твой нястомны дзень,
Галінку-рог пакінуў
Даверлівы алень.

## II

Адцвітаюць на стромах
Каліны.
Хмельны водар
Разносіць вясна.
Нехта кажа:
— Яе ён пакінуў...
Нехта шэпча:
— Прагнала сама...
Як вужака,
Паўзе пагалоска,
І цікаўныя вочкі
Блішчаць.
...Маладой ды адной
Гэтак млосна
На гарачай падушцы
Ляжаць.
І няўежна адной,
І няўлежна.
Ды мірылі вас людзі
Дарма.
Бо бяда,
Калі ў снежні няснежна,
У абдымках —
Гарэння няма.
...Прыціхаеш,
Павекі змыкаеш,

У чаўне сваёй мары
Плывеш.
Ўсёй істотай
Любові чакаеш
І таемнаю верай жывеш,
Што адзін,
Як лісток адарваны,
Ходзіць дзесьці
Ў вялікай журбе
Несустрэты,
Нязбытны каханы
І — шукае,
Шукае цябе.

III

Рабіна ў белым кіпетню.
Сасна
Запальвае
Бурштынавыя свечкі.
Гусцеюць травы,
І глыбеюць рэчкі,
І сэрцамі
Валодае вясна.
Наведваюць
Сяброўкі і сябры
Квадратны твой пакой
З высокай столлю.
Сюды чыюсьці долю
І нядолю
Нясуць
Жыцця імклівыя віры.
Сягоння —
Я запознены твой госць.

Зара за шыбай
Хутка загарыцца.
Спяшаемся з табой
Нагаварыцца
Пра вершы, пра сяброў,
Пра маладосць.
Не наталіць
Мяцежную душу
Ні тым, што ёсць,
Ні тым, што прыгадаеш.
— Ну, як жыццё? —
Ты ветла пазлядаеш,
Да шчок далоні
Ціха прыкладаеш:
— Тым і жыву, напэўна,
Што пішу...

* * *



Стаць магла б я вяслом паслухмяным
У руках тваіх дужых, мой любы.
Нават самыя злосныя хвалі
Не змаглі б патапіць твой чаўнок.

Стаць магла б я крыніцай сцюдзёнай
На шляху тваім доўгім, мой любы.
Ты засмяглымі вуснамі прагна
Да яе б у спякоту прынік.

Стаць магла б я рабінай раўнівай
Пад акном тваім светлым, мой любы.
Паспытаў бы, як бродзіць па жылах
Горкіх ягад гаючы настой.

...Стану я безыменнаю зоркай,
Каб любові нязбытнае промнем
Да цябе дакрануцца, мой любы,
Праз мільёны гадоў.
І згарэць...

* * *



Залатою завушніцай
Паківала мне вярба.
Задрамлю — ізноў прысніцца
Пад вярбою гэтай ніцай
На купалле варажба.

Кожны лёс навідавоку:
Той вяночак — павярнуў
І схаваўся з поля зроку,
Той — заблытаўся ў асоку,
Той — адразу патануў...

* * *



Не ўсе пакошаны лугі,
І травам золка на світанні.
Цячэ, цячэ рака растання
І размывае берагі.

На вецер кіну я тугу,
Адно пакліч мяне здалёку.
Адна, ва ўсіх навідавоку,
Па дрогкай кладцы пабягу.

* * *



Спрачаўся з меднаю струною
Твой спеў высокі, як крыло.
Пад незабытнаю сасною
Мы сустракаліся вясною.
Усё мінула — не са мною
Далоні чуйнае цяпло.

І чэзлы месячык над хатай
Панік, як стомлены хадок.
Але гучыць жальбой зацятай,
Але шуміць сасной заклятай,
Але звініць струной напятай
Табе прысвечаны радок.

## ЗМЕСТ



**Басуматрава С.**

Б 27 Званы чалавечнасці: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 174 с.

ISBN 5-340-00042-7

Святлана Басуматрава жыве і працуе ў Бабруйску. Галоўнае ў творчасці паэтэсы — вернасць высокім ідэалам, любімай справе, любоў да роднай зямлі, шчырых працавітых людзей.

«Званы чалавечнасці» — гэта перш за ўсё тэма сцвярджэння міру на зямлі, памяць пра тых, хто аддаў сваё жыццё за Радзіму, пратэст супраць небяспекі, якая навісае над людзьмі.

Б $\frac{4702120200-054}{М 302(03)-88}$ 41—88 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

*Басуматрова*
*Светлана Михайловна*

**КОЛОКОЛА ЧЕЛОВЕЧНОСТИ**

*Стихи*



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Басуматрава*
*Святлана Міхайлаўна*

**ЗВАНЫ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ**

*Вершы*

*Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак В. Г. Паўлавец. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Л. М. Маслоўская.*

ІБ № 2817

Здадзена ў набор 28.08.87. Падп. да друку 22.01.88. АТ 09514. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,43. Ум. фарб.-адб. 6,59. Ул.-выд. арк. 5,31. Тыраж 4500 экз. Зак. 764. Цана 55 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, парспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.